«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 5 (225), травень 2025 года


# Літаратурная Беларусь

Выпуск № 5 (225) (травень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ

facebook.com/litaraturnaja.belarus
t.me/litaraturnajabelarus




## Змест





**БЫЛІЦА**

# Сенька-інвалід

Сцяпан КРЫВАЛЬ
(1935—1996)




Звычайна ён з’яўляўся на базары праз паўгадзіны пасля адкрыцця «ўстаноў» з гарачымі напоямі. Правае вока перавязана анучкай, паўвуха — чырвонае, як жарына.

— Сенька ў суме-жалобе жыццё сваё бавіць...

— Сенька Берлін прастагнаў на шпітальным ложку... Сябе не шкадаваў! Рукі-ногі фрыц пасек! А медалёў камандзіры пашкадавалі! І без іх абыдуся...

І Сенька здатна выкідваў наперад сваю дзеравяшку-нагу, абыходзіў усе прылаўкі, вывіжоўваў, дзе што лепшае.

Людзі, намардаваныя за вайну кожны сваім горам, да інвалідаў адносіліся з павагай, нават калі тыя і тварылі часам такое, за што іншаму каму ніякага даравання не было б.

— Сеньку да Гітлера міна не падпусціла, у шпіталь загнала, а то б... Сенька за ўсіх вас яму б адпомсціў...

Вакол Сенькі збіраўся люд: кожны хацеў ведаць, як гэта Сенька за ўсіх іх адпомсціў бы Гітлеру?

— Сенька б яму адпомсціў! — крычаў ужо зусім ахмялелы. Стары шынель — завялікі, шапка адным вухам звісала з левага боку галавы, правае ж вуха, як запэўніваў сам Сеня, яму адкусіў нямецкі генерал, калі ён, Сеня, браў гэтага генерала ў палон.

— Ну проста генерал табе адкусіў вуха? — не верылі людзі.

— Сеньку не верыш? Дакуменцік патрабуецца? — І ён лез за крысо шыняля па той нібыта «дакуменцік», у якім чорным па белым было напісана, што менавіта Сеньку вуха адгрыз генерал, да таго ж яшчэ — залатымі зубамі.

— А чаму ж таго не можа быць? Хіба генералы не ўмеюць кусацца? — падахвочваў Сеньку яго хаўруснік па чарцы Мікіта Сук, для якога ён паспеў ужо стаць сваім чалавекам.

— А ба-але-е-ела! — удакладняў Сенька. — Лепш штык яфрэйтарскі перанёс бы, чым тыя генеральскія зубы...

Сенька тым часам браў з прылаўка ўсё, што яму трапляла на вочы: агурок, памідор, галоўку-другую часнаку, а парою і кавалак вяндліны ці сала. Такім чынам, закусіўшы пасля буфетнай чаркі, ужо разыходзіўся не на жарт:

— Прывёў таго нямецкага генерала і асабіста перадаў нашаму генералу: ордэна не далі, а чарку, поўную, як вока, з саміх генеральскіх рук маргануў...

— Ось гэта да-а! — зноў перабіваў Сенькаву гаворку хтось з натоўпу.

— А як жа: на вайне чарка — першая зброя! Там не шкадавалі гэтага дабра...

— Было, было так! — зноў сведчыць Мікіта Сук, як быццам сам ён быў на той вайне.

— А цяпер? — пытаецца Сенька.

— Яно і тое праўда, — выціралі хусцінамі вочы кабеты. — Чалавек, можна сказаць, усяго сябе за нас аддаў, а мы яму і чарку шкадуем...

І пускалася шапка па крузе.

Праз момант Сенька шкандыбаў у буфет, дзе высыпа́ў на прылавак сабраныя грошы, якія лічыла буфетчыца і налівала яму гарэлкі. У буфеце ён не закусваў — хопіць гэтага дабра і на базары! Цяпер восень — закусак у людзей сто восем!

Пасля другога «вялікага паходу» ў буфет Сенька на агуркі ды памідоры не звяртаў увагі. Цяпер ён мог сёе-тое і рэквізаваць, калі бачыў, што прадае тавар прадавец, у якога авечы розум у галаве і блышыная сіла ў плячах.

Гарадок быў ціхі, міліцыя на базар не завітвала, таму Сенька і заявіўся тут нямавeдама з якой часткі свету і на якой кабыле.

Дзе ён начаваў — ніхто толкам не ведаў. Ды летам, як гаворыцца, кожны кусцік пераначаваць пусціць! А зіма? Ну, зімой Сенька пойдзе шукаць лепшыя мясціны!

Пасля трэцяй вандроўкі ў буфет ён абмінаў прылаўкі з гароднінай і накіроўваўся да мясных закусак.

— Я за вас вуха і вока аддаў, пад Варшавай нагу пахаваў, а вы тут раскашавалі... Тлушч нагульвалі! Сенька ведае ўсё! Сенька з нямецкім генералам у абдымку прыйшоў да нашага генерала! Ордэн за кемлівасць начапілі, ды згубіў. А дублікатаў ордэнаў не выдаюць: ідзі, кажуць, новы зарабі, калі хочаш, каб твае грудзі золатам гарэлі! А куды зараз пойдзеш у атаку — правы фланг не выстаіць... Ну ты, барадачанька! — звярнуўся ён да пажылога мужчыны, які ўпершыню тут гандляваў крыху салам, крыху каўбасамі. Таму яго, як і Сеньку, ніхто не ведаў, адкуль ён. Мужчына падправіў на прылаўку каўбасу, падсунуўшы бліжэй да сябе.

— Дзе бараду, як памяло, адгадаваў, можа, скажаш, што ў акопе пад Гдыняй ці Прагай? Дык у акопе не дазваляецца яе гадаваць, каб гатэлем для палявой вошы не стала! У жонкі пад спадніцай, вось дзе добра яна расце! Ха-ха!

Сенька ўжо зусім захмялеў, наваліўся ўсім целам на прылавак, за якім стаяў барадач, аберуч ухапіў каўбасу і згроб на зямлю. Да Сенькі тут паспелі прывыкнуць, таму на яго выкрутасы ніхто вялікай увагі пад канец дня і не звяртаў.

— Ах ты, шкурнік! — закрычаў барадач. Выхапіў з-пад прылаўка ўласную кульбу і пачаў ёю дубасіць «героя». Збегліся людзі. Яны здзіўлена пазіралі, войкалі за кожным разам, калі барадач, ухапіўшы за руку Сеньку, «хрысціў» яго кульбай.

— Перастаньце біць інваліда! — крычалі спалоханыя жанкі на барадача.

— Інваліда? — разышоўся барадач. — Ды ён таго пораху і не нюхаў! Зараз я вам пакажу, які ён інвалід...

І толькі адпусціў барадач рукаў Сенькі, як той куляй ірвануў да варот, згубіўшы сваю драўляную нагу, якой удагонку яму запусціў дзядзька.

— Ды я яго ведаю як аблупленага! — крычаў ён. — Гэта ж з суседняй вёскі бусайла, прыстасаваўся да народнага гора! Бачыце, ды ў яго і ногі ёсць, і вочы! А вуха яму, п’янаму, сабака на Каляды на сметніку адкусіў!

— Ату яго, ату! — закрычалі пад агульны рогат людзі.

— З зямлянкі хутчэй хочацца вылезці, вось і прывёз сёе-тое сюды, каб крыху прадаць... А ён, шэльма, не пазнаў: ці то з п’яных воч, ці, можа, мяне і зусім не ведае... А я яго і бацьку добра ведаў — з-пад ката яйкі выграбаў ды прапіваў... Дык сынок пачаў працягваць яго заняткі! Адкляпаў на бутэльцы язык, як чэшскую касу-дзявятку, ды ўсіх напавал і косіць... На спачуванні народным барышуе, шэльма!

Нехта падняў павязку Сеневага вока.

— Ад сораму людскога адгароджваўся, — сказаў барадач. — Адно вока ў сабакі пазычыў, а другое — анучай заткнуў... Так лацвей смярдзючую душу супакойваць...

Больш Сені на базары не бачылі. Перабраўся ў іншую мясціну. Дзеравяшку знойдзе, вока чым-небудзь заткне, як выбітую шыбіну ў акне, каб у душу не прасочваўся сорам...

# Забудзьце фразу: «Можем повторить!»

Матэрыял няпросты... Аказваецца, некаторых рэчаў не памятаюць нават людзі старэйшага пакалення. Напрыклад, аб тым, як аднойчы з гарадоў зніклі інваліды Вялікай Айчыннай вайны, амаль усе і раптоўна. Каб не псавалі аблічча сацыялістычнай краіны, не падрывалі веру ў светлае заўтра і не азмрочвалі памяць вялікай Перамогі...

Масавая высылка інвалідаў за гарадскую мяжу здарылася ў 1949 годзе, да 70-годдзя Сталіна. Насамрэч адлоўлівалі іх з 1946 і аж да хрушчоўскага часу. Можна знайсці даклады самому Хрушчову аб тым, колькі бязногіх і бязрукіх жабракоў у ардэнах знята, напрыклад, на чыгунцы. І лічбы там шматтысячныя. Вывозілі не ўсіх. Бралі тых, у каго не было сваякоў, хто не хацеў нагружаць сваіх сваякоў клопатам пра сябе ці ад каго гэтыя сваякі праз калецтва адмовіліся. Тыя, хто жыў у сем'ях, баяліся паказацца на вуліцы без суправаджэння сваякоў, каб іх не забралі. Тыя, хто мог — раз'язджаліся са сталіцай па ўскраінах СССР, паколькі, нягледзячы на інваліднасць, маглі і хацелі працаваць, весці паўнавартаснае жыццё.



Гэты матэрыял — каб памяталі. З павагай да загінулых, моўчкі. Яны загінулі або памерлі ад ран пасля таго, як у 1945-ым адгрымеў пераможны салют.

Востраў Валаам — месца аднаго з самых бесчалавечных эксперыментаў па фарміраванні найбуйнейшай чалавечай «фабрыкі». Сюды, каб не псавалі гарадскі ландшафт, высылалі інвалідаў — самых розных, ад бязногіх і бязрукіх да алігафрэнаў і сухотнікаў. Валаам быў не адным, але самым вядомым з дзясяткаў месцаў ссылкі інвалідаў вайны. Гэта вядомая гісторыя. Гэта самыя цяжкія часы ў гісторыі Валаама. Тое, што недарабавалі першыя камісары, апаганілі і разбурылі пазнейшыя. На востраве рабіліся страшныя рэчы: у 1952-м з усёй краіны туды звезлі ўбогіх і калек і пакінулі паміраць.

Некаторыя мастакі-нонканфармісты зрабілі сабе кар'еру, малюючы ў келлях чалавечыя абрубкі. Дом-інтэрнат для інвалідаў і састарэлых стаў нечым накштальт сацыяльнай лепразорыі — там, як і на Салаўках часоў ГУЛАГа, утрымліваліся ў зняволенні «адкіды грамадства». Высылалі не ўсіх пагалоўна бязрукіх-бязногіх, а тых, хто жабраваў, прасіў міласціну, не меў жылля. Іх былі дзясяткі тысяч, хто страціў сем'і, жыллё, нікому не патрэбныя, без грошай, затое абчэпленыя ўзнагародамі. Іх збіралі за адну ноч з усяго горада спецыяльнымі нарадамі міліцыі і дзяржбяспекі, адвозілі на чыгуначныя станцыі, грузілі ў цяплушкі тыпу ЗК і адпраўлялі ў гэтыя



самыя «дамы-інтэрнаты». У іх адбіралі пашпарты і салдацкія кніжкі — фактычна іх пераводзілі ў статус ЗК. Ды і самі інтэрнаты былі ў ведамстве МУС. Сутнасць гэтых інтэрнатаў была ў тым, каб ціха звесці інвалідаў на той свет.

...«Невядомы», — так і назваў свой малюнак мастак Генадзь Даброў. Пазней удалося быццам бы высветліць, што гэта быў Герой СССР Рыгор Валошын. Ён быў лётчыкам і выжыў, пратараніўшы варожы самалёт. Выжыў — і праіснаваў «Невядомым» у Валаамскім інтэрнаце 29 гадоў. У 1994-м з'явіліся ягоныя родзічы і паставілі на Ігуменскіх могілках, дзе хавалі памерлых інвалідаў, сціплы помнік... Шматлікія іншыя магілы засталіся безыменнымі.

Цытата з «Истории Валаамского монастыря»: «У 1950 годзе на Валааме адкрылі Дом інвалідаў вайны і працы. У манастырскіх і скіцкіх будынках жылі калекі, якія пацярпелі падчас Вялікай Айчыннай вайны...»

...Былы разведчык Віктар Папкоў. Гэты ветэран вёў жаласнае існаванне ў нары на востраве Валаам. З адной парай зламаных мыліц і ў адзіным пінжачку. Цытата з кнігі «Неперспективные люди с острова Валаам» М. Ніканорава: «Пасля вайны савецкія гарады былі наводнены людзьмі, якім пашчасціла выжыць на фронце, але якія страцілі ў баях за Радзіму рукі і ногі. Саморобныя каляскі, на якіх юркалі паміж нагамі мінакоў чалавечыя абрубкі, мыліцы і пратэзы герояў вайны псавалі дабрабыт светлага сацыялістычнага сёння. І вось аднойчы савецкія грамадзяне прачнуліся і не пачулі звыклага грукату калясак і рыпання пратэзаў. Інваліды раптоўна былі выдаленыя з гарадоў. Адным з месцаў іх ссылкі і стаў востраў Валаам. Падзеі гэтыя вядомыя, запісаныя ў аналы гісторыі».

Між тым выгнаныя інваліды на востраве прыжыліся, заняліся гаспадаркай, стварылі сем'і, нараджалі дзяцей, якія ўжо самі выраслі і самі нарадзілі дзяцей — сапраўдных карэнных астравіцян».

...«Абаронца Ленінграда». Малюнак былога пяхацінца Аляксандра Амбарава, які абараняў абложаны Ленінград. Двойчы падчас бамбёжак ён апынаўся пахаваным жыўцом. Амаль не спадзеючыся ўбачыць яго жывым, таварышы адкапвалі воіна. Падлячыўшыся, ён зноў ішоў у бой. Свае дні скончыў сасланым і забытым на востраве Валаам. Цытата з кнігі «Валаамская тетрадь» Я. Кузняцова: «А ў 1950 годзе па ўказе Вярхоўнага Савета Карэла-Фінскай ССР сварылі на Валааме і ў манастырскіх будынках размясцілі Дом інвалідаў вайны і працы. Вось гэта была ўстанова!».

Пытанне: чаму ж там, на востраве, а не дзе-небудзь на мацерыку? Бо і забяспечваць прасцей і змяшчаць танней. Фармальнае тлумачэнне: тут шмат жылля, уздапаможных памяшканняў, гаспадарчых (адна ферма чаго вартая), ворныя землі для гаспадаркі, фруктовыя сады, ягадныя гадавальнікі, а нефармальная, сапраўдная прычына: ужо занадта намазолілі вочы савецкаму народу-пераможцу сотні тысяч інвалідаў у цягніках, на вуліцах, ды ці мала яшчэ дзе. Ну, мяркуйце самі: грудзі ў ардэнах, а ён каля булачнай міласціны просіць!.. А куды іх падзець? У былыя манастыры, на выспы! На працягу некалькіх месяцаў краіна-пераможца ачысціла свае вуліцы ад гэтай «ганьбы»!

Вось так узніклі падобныя багадзельні ў Кірыла-Белазёрскім, Горыцкім, Аляксандра-Свірскім, Валаамскім і іншых манастырах. Дакладней сказаць, на разваліннах манастырскіх, на разбураных савецкай уладай слупах Праваслаўя. Краіна Саветаў карала сваіх інвалідаў-пераможцаў за іх калецтвы, за страту імі сем'яў, прытулку, родных гнёздаў, спустошаных вайной. Карала адзінотай, безвыходнасцю. Кожны, хто трапляў на Валаам, усведамляў: «Гэта ўсё!» Далей — тупік. «Далей цішыня» ў невядомым магіле на закінутых манастырскіх могілках.

Ці зразумець нам сёння меру бязмежнай роспачы і неадольнага гора, якія ахаплівалі гэтых людзей у тое імгненне, калі яны траплялі на гэтую зямлю. У турме, у страшным гулагаўскім лагеры заўсёды ў зняволенага цепліцца надзея выйсці адтуль, здабыць волю, іншае, менеі горкае жыццё. Адсюль жа зыходу не было. Ну і ўявіце сабе, што за жыццё пацякло ў гэтых сценах. Бачылі гэта зблізку шмат гадоў запар. А вось апісаць цяжка. Асабліва калі перад позіркам узнікалі іх твары, вочы, рукі, іх неапісальныя ўсмешкі, усмешкі істот, якія нібыта ўнечым навек правініліся, як быццам просяць за нешта прабачэння... Немагчыма, мусіць, яшчэ і таму, што пры ўспаміне аб усім гэтым проста спыняецца сэрца, перахоплівае дыханне і ў думках узнікае немагчымая блытаніна, нейкі згустак болю! Прабачце...

...Разведчыца Серафіма Камісарава. Змагалася ў партызанскім атрадзе ў Беларусі. Падчас выканання задання зімовай ноччу ўмерзла ў балота, дзе яе знайшлі толькі раніцай і літаральна высеклі з лёду.

...Лейтэнант Аляксандр Падасенаў. У 17 гадоў добраахвотнікам пайшоў на фронт. Стаў афіцэрам. У Карэліі быў паранены куляй у галаву навылёт, паралізаваны. У інтэрнаце на востраве Валаам жыў усе паваенныя гады, якія нерухома прасядзеў на падушках. Цытата з кнігі «Тема нашествия на Валааме» В. Зака: «Усіх нас, такіх вось, як я, сабралі на Валааме. Некалькі гадоў таму нас, інвалідаў, было тут шмат: хто без рук, хто без ног, а хто і аслеп да таго ж. Усе — былыя франтавікі».

...Вобмацкам рухаюцца пальцы па паверхні медалёў на грудзях Івана Забары. Вось яны намацалі медаль «За абарону Сталінграда». «Там было пекла, але мы выстаялі», — сказаў салдат. І яго нібы высечаны з каменя твар, шчыльна сціснутыя вусны, аслепленыя полымем вочы пацвярджаюць гэтыя скупыя, але гордыя словы, якія прашаптаў ён на востраве Валаам.

...Партызан, салдат Віктар Лукін. Спачатку ваяваў у партызанскім атрадзе. Пасля выгнання фашысцкіх акупантаў з тэрыторыі СССР ваяваў з ворагамі ў войску. Вайна не пашкадавала яго, але ён застаўся па-ранейшаму цвёрдым духам.

Карціна «Стары воін». Міхаіл Казаценкаў, ратнік трох войнаў: руска-японскай (1904—1905), Першай сусветнай (1914—1918), Другой сусветнай (1939—1945). Калі мастак маляваў ветэрана, таму споўнілася 90 гадоў. Кавалер двух Георгіеўскіх крыжоў за Першую сусветную, воін скончыў сваё геройскае жыццё на востраве Валаам.

...А гэтая жанчына не была на фронце. За два дні да вайны яе каханага мужа-вайскоўца адправілі ў Брэсцкую крэпасць. Яна таксама павінна была паехаць туды крыху пазней. Пачуўшы па радыё аб пачатку вайны, яна страціла прытомнасць — і ўпала тварам у распаленую печ. Яе мужа, як яна здагадалася, ужо не было ў жывых. Калі мастак маляваў яе («Партрэт жанчыны з абгарэлым тварам»), яна спявала яму цудоўныя народныя песні...

Забудзьце фразу: «Можам паўтарыць!»

***enigma.ua***

***Пераклад з рускай мовы***



# Богам дадзеная

## З любоўю, надзеяй і верай да Багданаўкі



Аксана СПРЫНЧАН

### Сысці немагчыма застацца

Ёсць на Лунінеччыне месца, з якога, як той казаў, сысці немагчыма, хоць і трэба, калі ты яшчэ здольны хадзіць.

Гэта клады́ ў вёсцы Багданаўка, якія захавалі для нас часы паганства. На магілах — дубовыя прыкла́ды. Паводле некаторых версій: дарослым — вялікія, дзеткам — маленькія, мужчынам — з суком. Пісьменнік Францішак Віславух, які нарадзіўся на Драгічыншчыне, пісаў: «Магілы мужчын прывальваюцца дубовымі калодамі з тоўстым сукам, узнесеным угару. Гэта надзвычай нагадвае абрыс барана, які ляжыць; так і цяпер называюць гэтыя надмагільныя помнікі "баранамі"». Мо так і было напачатку, але пасля таго, як некаторыя нашчадкі паставілі сучасныя помнікі, відаць, што дубовыя прыклады з суком і ў жанчын сустракаюцца.

Рэшткі такіх магіл ёсць на некаторых могілках Палесся, але менавіта ў Багданаўцы дубовыя брамы паміж светам жывых і светам памерлых захаваліся найлепей.

Найлепей, але… Але паспяшайцеся пабачыць, адчуць, запомніць, бо і дуб не вечны, як і людзі. І людзі імкнуцца зрабіць сучасна, і знікае ўнікальнасць. Можна сустрэць і, так бы мовіць, пераходны варыянт ад паганства да хрысціянства: дубовы прыклад з суком-крыжам альбо металічны крыж у дубовым прыкладзе, альбо і помнік стаўляюць, і старое надмагілле пакідаюць.

У 1939 годзе клады ў Багданаўцы здымаў знакаміты фатограф Ян Булгак, які ў 1919—1939 гадах кіраваў кафедрай мастацкай фатаграфіі пры Віленскім універсітэце.

Апошнія такія могілкі захаваліся на ўскрайку Лунінеччыны, а ў найбольшай захаванасці — заўсёды найбольшая энергія.

### Версіі і вера

Мне сустрэлася тры версіі паходжання назвы вёскі Багданаўка.

Першая — вёскай валодаў пан Багдан — і ад ягонага імя ўтварылася назва.

Другая — падчас паўстання некалькі чалавек на прозвішчы Антановіч, Ільючык, Кавалевіч, Мелюх, Савіч, Ярмольчык хаваліся на гэтай зямлі ад уладаў, стварылі паселішча і назвалі яго ў гонар імя свайго атамана.

Трэцяя — сялянам не ставала зямлі, і яны знойдзеныя ў лесе палянкі пераўтваралі ў ворныя землі, называлі іх ніўкамі, але гэтыя землі былі неўрадлівыя. І калі ў іх запытвалі, як ніўка, то адказвалі — бяда, а не ніўка. Адсюль і пайшла назва Бяданіўка. А пасля для лепшага вымаўлення пачалі казаць Багданаўка.

Але ўсе гэтыя версіі не выклікаюць даверу.

Таму застаецца
мая непахісная вера:
Багданаўка — Богам дадзеная.

### Краса дзеля красы

Багданаўскае азярцо ў вяночку з дрэў. У азярцы не плаваюць, але ім немагчыма намілавацца. Краса дзеля красы.

І вяночак можна на беразе звіць, і пусціць можна, і няхай ён не паплыве, але абавязкова знойдзецца аблачынка, якую вяночак упрыгожыць.

Паэтам «чыстай красы» называлі Максіма Багдановіча, і хоць ён не глядзеўся ў тутэйшае азярцо, краса Максімавай паэзіі і паэзія маленькага азярца перагукаюцца, як Багданаўка і Багдановіч.

### Дрыгва

Вуліцы Максіма Багдановіча ў Багданаўцы пакуль няма. З пісьменнікаў пашанцавала адно Якубу Коласу. Мо таму, што ўлюбёны творца жыў у Лунінцы, а мо нехта з тых, ад каго залежала пастанова, дужа любіў дрыгву. Не толькі з вялікай літары і ў двукоссі, як знакаміты твор класіка, але і дрыгву ў місцы.

Як файна расчысціць на ёй у тлушчыку вакенца і разглядаць праз празрыстасць, якая восьвось здрыганецца, дно з мяскам, часнычком, чорным перцам. І каб усяго паболей, і каб усяго — у меру. Пісаў жа Якуб Колас:

*Ва ўсім — і ў малітвах —*
*трэба знаць меру,*
*А добраму сэрцу і так я паверу.*

А якое «добрае сэрца» не любіць дрыгву, і «Дрыгву», і Якуба Коласа, і не марыць пра вуліцу Багдановіча?

### Белае золата

Час — золата, яго заўсёды не стае. Таму і вымяраюць, вымяраюць, вымяраюць гадзіннікамі сонечнымі, механічнымі, электроннымі і, ведама ж, пясочнымі.

Найчароўнейшыя пясочныя гадзіннікі з багданаўскага пяску, белага, светлага, на якім застаюцца твае сляды, хоць ты і забываешся на час і часовасць, ідучы пясочным жнівеннем, у якім даўно не было дажджу, пакуль не праедзе сябрына хлопцаў на роварах ці машына з надпісам «Людзі».

І вершы застаюцца…

***

*у пясках Палесся*
*колеру белага дня*
*і колеру адвячорка*
*гэтак добра*
*ісці*
*самому ў сабе*

*перасыпаць*
*перасыпаць*
*думкі і сны*

*ляжаць*
*ляжаць*
*ляжаць*
*жывому*

*і жывому —*
*пакуль цябе*
*памятаюць*

### Срэбнае кола

На белым золаце застаюцца сляды колаў, няхай гэтыя сляды і хутка знікнуць. Багданавец роварам вязе радзюжку зялёнай травы…

У мінулыя стагоддзі багданаўскія стэльмахі і рымары — майстры па вырабе дугаў і вобадаў на вазы — былі вядомыя далёка за межамі вёскі. Таму і на гербе Багданаўкі ў дольнім зялёным полі — палова кола срэбнага колеру.

Па нейкім часе на суседняй вуліцы насустрач мне едзе вазок, запрэжаны залаціста-рудым канём, збочвае ў двор. Гаспадар крычыць мне: «Гэта я яму траву вёз!» — «А як яго клікаць?» — гукаю я. — «Каштан».

Кола — яшчэ і сімвал сонечнай энергіі, энергіі руху, любові да жывога.

### Сон у летнюю ноч

Сны ў Багданаўцы і пра Багданаўку заўжды Божыя і прыгожыя.

Сню я, што мяне ўзялі на ролю актрысы ў маленечкі лялечны тэатр «Буклей», які існуе толькі ў Багданаўцы на Каляды. Тэатр размешчаны ў каляднай зорцы. І я, хоць і дарослая, але маленькая-маленькая. І папяровая. А побач са мною папяровыя людзі, жывёлы, дрэвы. Каштан развозіць анёлаў да кожнага жыхара вёскі, якія вераць у цуды. А я ўчэсваю яму грыву…

Дзею можна пабачыць адно тады, калі запальваюць свечку і на экране — цьмянай кальцы — ажываюць цені лялек.

### Звонкасць

Дуб! Усе вучылі ў школе, што прыканцы слова звонкія зычныя аглушаюцца, а значыцца «б» пераходзіць у «п», але…

Але гэта не пра «дуб» у вёсцы Багданаўка. Тут гэтае слова захоўвае сваю звонкасць ад пачатку і да канца. Не здзіўляйцеся — гэткая асаблівасць гаворкі, якая належыць да адной з групаў заходнепалескіх гаворак.

І калі глядзіш на багданаўскія дубы, верыш, што ім нездарма пашанцавала не аглушацца, быць дрэўна-нутрана і слоўна-вонкава звонкімі.

### Назва дык назва

Ну вось жа бывае такое, што слова «Рэчка» пішуць з вялікай літары. І не таму, што з гэтага слова распачынаецца сказ, і не праз тое, што гэта пачатак радка верша. Рэчка і ёсць назвай рэчкі ў Багданаўцы. Кшталту як кажуць «грыб» — то гэта значыць баравік, галоўны грыб.

І як належыць — ля Рэчкі вуліца Набярэжная. Такая назва вуліцы рэдка сустракаецца ў вёсках.

### Масты і масткі

Калі ёсць рэчка Рэчка, дык ёсць і масты і масткі праз рэчку Рэчку.

І бетонны, якім можна праехаць, і драўляныя, якія толькі цябе адну і вытрымаюць, ну мо і дваіх, калі гэтыя двое як адно цэлае, — закаханыя.

Калі загадаць жаданне і прайсціся цераз усе масткі змейкаю, нікога не сустрэўшы, усё загаданае спраўдзіцца. Але дзе тут! Едуць і едуць сапраўдныя гаспадары вазамі з коньмі, кумпаніі падлеткаў і дарослыя роварамі, матацыклы і машыны, трактары… Ды ўсё адно я іду змейкаю, няхай усім, хто прамінае рэчку Рэчку, пашанцуе.

### Драўляныя сродкі руху

Толькі не падумайце, што я пра конскія падводы. У 1931 годзе Васіль Ільючык з Багданаўкі змайстраваў драўляны ровар.

Ад'ездзіўшы два гады, гаспадар прадаў яго Пінскаму краязнаўчаму музею за не самыя малыя на той час грошы — 10 злотых. І цяпер можна пабачыць ровар у музеі Беларускага Палесся і ўразіцца чалавечай празе руху.

А ровар Васіль Ільючык не адзін зрабіў — не пехатою ж хадзіць. А прыканцы жыцця і верталёт драўляны змайстраваў, але крэўныя не пусцілі ляцець…

### Жывы агеньчык у коле з аронii

На помніку на ўзлеску трапеча жывы агеньчык. Гэта надзвычай узрушліва. Выпадкова, а хутчэй — не, на свечку прылятаюць чырвоныя стрэлкі. Помнік габрэям, якія загінулі ў Другую сусветную вайну ў вёсцы Багданаўка, паставіў пісьменнік Мікола Ільючык з дапамогай сяброў і сыноў-падлеткаў. Напачатку ён спрабаваў дастукацца ў розныя інстанцыі, а тады зразумеў, што не прычакае. Разам з сынамі абсадзіў паляну вакол помніка аронiяй. Увосень ейнае лісце гарыць, як кроплі крыві. Да помніка прыязджаюць вяселлі, ды і ягадаў цяпер гэтулькі шмат, што яны дапамагаюць вяскоўцам і вітамінамі, і здаць можна за грошы, і памятаць.

### Я веру

Існуе легенда, што ў Багданаўцы ўсе пішуць вершы. Ну мо некаторыя нікому не паказваюць, але пішуць. І прозу, ведама ж.

Я веру, бо не пісаць у гэтым куточку Лунінецкага Палесся немагчыма, хіба напішаш і не паспееш занатаваць, бо клопатаў пад нябёсамі стае.

І ўсё ж бывае час, калі ты сядзіш пад персікавым дрэвам, і падаюць персікі. Як у казцы — і малыя, і вялікія (з аднаго дрэва!), але сакавітыя, напоўненыя жыццём. І побач Ільючыкі, і малыя, і вялікія, але ўсе з адчуваннем Богададзенасці сваёй Багданаўкі, свайго Палесся, сваёй Беларусі. Пішуць, спяваюць, натхняюць.

***

***Сям'і Міколы Ільючыка***

*поўня*
*сёння*
*як вясковае яйка*

*відаць*
*што гуляла*
*на вольным выпасе*

*над Багданаўкай*
*Богам дадзенай*
*па-над Прыпяццю*
*каб жыцця*
*напіцца*

*жалуды лятуць*
*грушы й персікі*
*конь Каштан*
*з грывы скідвае*
*зоркі*

*хай буслы адляцелі*
*«Тры чарапахі»*
*лётаюць*
*лётаюць*
*лётаюць*

### Прамянёвае

Ружаватыя, чырвоныя, жоўтыя, рудыя, белыя і нават шэрыя сонейкі свецяць багданаўцам і гасцям. Старажытная традыцыя штукаваць на шчытах хатаў салярныя сімвалы тут добра захавалася. Пераважна ў верхняй частцы шчытоў выкладаецца палова сонечнага дыска, ад якой разыходзяцца прамяні.

Сустракаюцца і суперсонечныя хаты, калі на франтоне не толькі ў верхняй частцы знаходзіцца сонечны паўдыск, але і па баках ёсць квадранты сонечных дыскаў. Калі ўявіць, што гэта сонечны пазл і сабраць яго, атрымаецца круглае сонейка.

І стрэлы на вільчыках можна яшчэ пабачыць. Хутчэй за ўсё, дзеля харства рабілі ўжо, а не дзеля абярэгу, але ж і краса — абярэг.

### Кляновы лісток

Як толькі я змагла выйсці з багданаўскіх могілак, пабачыла на суседняй хаце вобраз Беларусі. Так, так, рог хаты быў упрыгожаны кляновым лістком. Нямала я вандрую, але кляновых лісткоў на хатах не бачыла.

Яшчэ хата, у якой на рагу кляновы лісток… Яшчэ… А вось і лісток клёна на кансолі. І на клубе — лісток…

Ведама ж, пацікавілася, чаму гэтулькі кляновых знакаў. «Ды папросту некалі майстар што ўмеў, тое і рабіў», — прагучала ў адказ.

Згадала і свае кляновыя лісткі. Маляванне — не мой талент, мама ў маленстве навучыла маляваць кляновы лісток, як самы просты і прыгожы. І сёння люблю яго маляваць. Мяркую, што майстар таксама любіў. І ягоная любоў упрыгожвае хаты багданаўцаў і Беларусь.

### Суседзі і павы

Што паробіш — павукі-паўліны-павы непрыгожа крычаць, прынамсі людзям так падаецца. І хоць пёркі ў мяне стаяць на маім пісьмовым стале ў выдавецтве і натхнілі мяне на верш, павукоў-паўлінаў-паваў гэтых ужо нямашака. Перашкаджалі сваімі крыкамі суседзям, а хіба суседзі не людзі?

***

*павук*
*што жыве на краі*
*Лунінеччыны*
*ма́е вабныя пёркі*
*лёгка заблытацца*
*ў ягоным павуцінні*
*вытканым з дзівосных колераў*

*а калі пёркі выпадаюць*
*ягоны гаспадар*
*дорыць пёркавыя букеты*
*і з кожнага пёрка*
*пазірае вока*

*няцотная колькасць вачэй*
*адпалохвае ліха*
*сваё і чужое*

*а ўсё таму*
*што павук-паўлюк-паўлін*
*з Багданаўкі*
*не лякаўся сваім хвастом*
*дакранацца*
*ні да зямлі*
*ні да неба*

### Чарпальнік падземнага скарбу

Ёсць і яшчэ ў Багданаўцы прыгожыя птушкі. Няхай яны і не крычаць, але іх ужо можна занесці ў Чырвоную Кнігу.

Не так і лёгка трымаць чалавеку шэрага жорава ў руках, і даводзіцца пагадзіцца на вадацяг-сініцу.

Але той, хто не баіцца трымаць у руках жорава, будзе далучаны да чарпання сцюдзёнага падземнага скарбу.

А яшчэ жоравы нагадваюць нашу самую беларускую літару, якая таксама жыве ў БагданаЎцы.

### Як Бог…

Даўно не было ў Багданаўцы дажджу. Гляджу на гароды, дрэвы, травы, і сэрца сціскаецца. Я прызвычаілася, што ў спёку на маім лапіку зямлі на пісьменніцкіх лецішчах усё адно ўсё зелянее, бо не шкадую вады, нават камяні свае паліваю.

Зразумела, тут болей зямлі, да таго ж тыя, хто карыстаецца вадацягам, за ваду плацяць, ды і са студні вады не нацягаеш рукамі гэтулькі, каб буяў зялёны аазіс у палескіх пясках. Мікола Ільючык супакойвае тым, што некалі ягоная мама сказала яму: «Як Бог не паліў, дык і ты не пальеш»[1]. І гэта ж напраўду так — колькі б я не ліла вады на сваю зямлю і ўдзень, і ўначы, ніколі я не наталю яе.

І як ужо Бог стварыў Багданаўку, дык толькі таму і я магу стварыць свой вобраз Богам дадзенай вёскі.

[1] Адышоў ад нас пісьменнік, пастар пратэстанцкай царквы, які шмат зрабіў для жыцця беларускага слова, Мікола Ільючык (10. 04. 1966—4. 02. 2025). Цяпер на знакамітых могілках у Богам дадзенай Багданаўцы будзе і магіла блізкага мне чалавека…

# «То — не вецер»



Людміла АНДЗІЛЕЎКА

Ад самай раніцы Сеньку круціла. Так бывала, калі вечарам чакалася гулянка. Цяпер другое. Чалавека аж распірала знутры. То накаціць жаль, сум здушаць болем, то лагодная хваля прыплыве, зробіцца светла, хораша, цікаўна, лёгка. Потым, ні з таго ні з сяго, зноў заные душа, злосць нападзе, бы звер драпежны зубамі склыгае. Нават смех разбіраў — рагатаў бы сам-сабою, каб дапусціўся.

На рабоце здача аб'екта. Калі ў брыгадзе, нібы за новабудоўлю будуць прастаўляцца. Аліна-брыгадзірка аб'явіла: просяць вечарам за сталом пасядзець, хто жадае. Мальцы бачылі: яна пераняла з рук дырэктара школы чамадан — крывы, вялікі чахол ад акардэона, у ім зваблівa пабразгвала шкло не пустой тары — раскашэліцца, мусіць, давялося. Паспрабуй — не! Паўгода ледзь не кожны работнік брыгады, хоць і жартам, ды намякаў: не грэх бы вуглы замачыць. Аліна дацягнула чахол да каморы, прымкнула на ключ.

Увесь дзень без толку адбоўталіся: там — коп, тут — цоп... Не толькі Сеня, хвалявaліся і хлопцы, хацелася хутчэй сесці за стол. Ледзь дачакаліся вечара. Прынеслі габляваных дошак, прыладзілі на казлы, заслалі газетай. Дасталі — у каго што засталося ад абеду, засталося ўсё. Не абедалася. У Сенькі торгала шчаку. Ён прысеў на рагу, нібы хаваючыся за шырокую спіну Васі-маляра, каб дужа не фігураваць у кампаніі.

Пачыналася нудна, нялоўка, хоць дырэктарка старалася за сталом трымацца проста. Як тут запанібратствуеш ці адважышся «на брудэршафт» — многа хто з работнікаў вадзіў дзяцей у музыкальную школу. Але слова за слова, налілі па другой — каб дах не цёк! Камандавала Аліна. Шчокі і ў яе паружавелі, і пасля трэцяй жанчына, нібы мімаходзь, ды з застарэлай крыўдай упікнула, што яе дачцэ не далі пасведчанне аб заканчэнні школы, бо блату не было.

— Аліна Янаўна, ваша дачушка зусім не хадзіла на занядкі. На кожны ўрок даводзілася цягнуць, як цялушку на прывязі. Хадзілі па яе на дом, ці ж гэта работа? За кожным вучнем не находзішся.

— Але ж грошы плацілі.

— Вось і стала шкада вашых грошай — адлічылі са спісу навучэнцаў.

— Што, Алінка, захацела дачцэ лёгкага хлеба прыдбаць? — каб закругліць па-добраму размову, пажартаваў хтосьці з брыгады.

Аліна, спакойная жанчына, міралюбівая, ніколі б не пачала такой гамонкі, але часта ў брыгадзе і на прадпрыемстве заводзілі гутарку, як прыстроіліся музыканты: цёпла, чыста, нічога не трэба рабіць — сядзі, слухай музыку ў задавальненне. Зайздросцілі лёгкаму хлебу. Лёгкі хлеб чамусьці не даваўся іх дзецям. Не хапала цярпення, стараннасці, таленту, працы. Бацькі паслухаюць звяглівае рыпанне першых заняткаў сваіх музыкаў, ды пакідаюць мару пра лёгкі хлеб. Забіраюць вучня са школы, каб дарэмна грошы не траціць.

Сеньку таксама карцела падтрымаць брыгадзіра, хацелася тут жа ўсчыніць вэрхал. Ды сваіх дзяцей не вадзіў у музыкалку і не ўлавіў, пра што гаворка.

— Які тут блат?! Любога з панадворку ўпрошваем, абы вучыўся. Па тры разы прымаем: пакінуць школу — вяртаюцца, пакінуць — вяртаюцца...

— Няхай бы дакумент быў.

— Навошта вам тая папера здалася? Каму паказваць будзеце? Дакумент з музыкантаў пытаюць ці музыку?

— Музыку, музыку! Пайграйце нам. Паспяваем, — загаманілі за сталом.

Кагосьці выправілі па акардэон. Прынеслі бліскучы, чорнага колеру, інструмент з бляшанымі літарамі на ўвесь фасад — WELTMEISTER. У калідорчыку, які ўжылі за сталовую, раптам ўспеніліся гукі. У пустым пакоі ад новых сцен адбілася рэха, моцнае, звонкае. Застолле ажыло, хлопцы павесялелі. Дзве маладзіцы, з навенькіх рознарабочых, паўскоквалі з лавы, кінуліся танчыць.

— «Цыганачку» можаце? Сыграйце «Цыганачку»!

Яны са смехам матлялі шырокімі штанінамі камбінезонаў, нібы цыганскімі спадніцамі, ускідвалі худыя рукі да столі. Распусціўшы валасы, фарбаваныя аж да сіні чорным колерам, нязграбна трэслі плячыма, выдаючы «прысутнасць бюсту».

Сенька ўпотай мацюкнуўся. Яму зусім не падабалася, як выглядае цяперашняя моладзь. Дзеўкі палілі, пілі на ўзроўні з брыгаднымі хлопцамі, валасы фарбавалі пад белабрысых снягурак альбо пад кітаек. Яны прылізвалі чубы набок, нібы ў Гітлера. Мода — адна пад адну — сухарэбрыя жардзіны! Вочы нахабныя, глядзяць ва ўпор без сораму. Пры тым нейкае раўнадушша ў твары, бы лялька — не жывы чалавек.

Застолле зварухнулася, пайшло проста, весела. Жартаваць пачалі, вальней трымаліся хлопцы. Потым, як паселі танцоркі, загучала сумная старадаўняя песня.

*«То — не ветер ветку клонит,*
*не дубравушка шумит.*
*То — моё сердечко стонет.*
*Как осенний лист дрожит».*

У Сенькі аж запякло ў грудзях. Успомніў, як гэта музыкантка — маладой дзяўчынёткай — з'явілася ў іх мястэчку. Сеня закахаўся адразу, хоць быў маладзейшым гады на чатыры. Тады Сеньку яшчэ і на танцы не пускалі. Праўвецца нeяк падманам, у кутку сядзе, схаваецца за дарослых і назірае за ёй. Проста следам хадзіў, але ўсё ўпотай. Раптам у цэнтры пасёлка ці на базарчыку выпадала сустрэцца з дзяўчынай — заліваўся чырванню, быццам яна штось пра яго ўведае. Цягнулася б таемная закаханасць, ды аднойчы такое нарабілася, што сам Сеня не здольны патлумачыць, бы навалач якая на яго ўспала. І не думаў, і не збіраўся, само сабой выйшла. Ён ужо працаваць пасля школы ўладкаваўся на будоўлю. Напярэдадні мальцы запатрабавалі першы заробак адзначыць. Ішоў на працу з нясвежай галавой, пераходзіў цэнтральную вуліцу — яна на сустрач. Зіма, снег у твар, слізка, машыны наўкола снуюць, а Сенька схапіў музыкантку за руку.

— Люблю цябе... Выходзь за мяне — усё жыццё кахаць буду.

Яна зніякавела, узіраецца здзіўлена ў вочы — ці не жартуе хлопец. Зусім ад парты, халасты. У яе ў руцэ пачэпачка ад санак, у санках двое малых.

— Ну што вы? — апамяталася. Ласкава так, па-сяброўску загаварыла. — Не трэба. Што вы? У вас усё яшчэ наперадзе, сустрэнеце сваё.

А машыны па абодва бакі сігналяць, прытармажваюць, знаёмыя шафёры ў форткі торкаюцца, пасміхаюцца.

— Ну, Сенька!

— Ого — куды махануў!

— Іш, дадумаўся!

— У качагары да музыкантак нанімаешся?..

Мелодыя паласавала сэрца. Сеня рашыўся выглянуць з-за пляча Васі. Ён ухапіўся дзвюма рукамі за лаву, прыгнуў шыю, быццам балючы ўспамін той хтосьці зараз здолее разгадаць, прылюдна выкрыць. Плакала мелодыя, плакала душа Сені, а потым штосьці пайшло не так. Зайграла варыяцыі! Толькі пачне прыслухоўвацца Сеня, пазнае матыў — як яго кудысці заводзіць не ў той бок. Зноў выплыве знаёмая мелодыя, вось-вось словы прыпомняцца з песні, ды музыка робіць паварот: непрыемны, нечаканы. Пальцы музыканткі пырхалі над клавішамі, нібы камары мак таўклі, ва ўзлы вязаліся і палівалі-палівалі, а музыкі няма! Яна не грэла: замест прыгожага матыву гучала штосьці лішняе, груваздкае, надуманае. Так перапатрашыць песню! Ды акордамі — жах, жах па вуху! Варыяцыі — вар'яцыі! Бляха-муха! Абражае яна! Здзекуецца з іх наўмысна!



Фота pxhere.com

Заскрэбла Сеньку нястрымна! Захацелася ўстаць з-за стала, перакуліць лавы, ірвануць на грудзях кашулю. Вучаць іх, вучаць там у горадзе, а яны вяртаюцца такімі важнымі, ганарлівымі, нібы з іншага цеста лепленыя! Не любіў Сенька вучаных. Ён і сам мог вывучыцца, галава хваткая, задачкі як семкі лузгаў, ды не было каму яго вучыць.

Сенька паўзіраўся ў твары брыгадных — хлопцы таксама не слухалі, пачалі гаманіць, падымаць чаркі, закусваць, але гатоўнасці на бунт ні ў кім не адшукаў. Праглынуў сваю чарку і Сеня, не чакаючы здравіц. І адважыўся зноў выглянуць з-за пляча Васі-маляра — твар музыканткі быў ветлівы, светлы, ні кроплі наўмыснага здзеку ў ім не было, ясна — сама зразумела, што нікому тут яе варыяцыі не да душы. Нават шкада Сеню стала яе і крыху сорамна за свой намер. Можа, і праўда, чагосьці не разумее ён у той музыцы?

Сеня дацёгся да дому без памяці. Жонка Таня хвалявацца пачала, выйшла на панадворак, паўглядалася ў ноч, прыслухалася, ці не чутно дзе галасоў, і ледзь не звалілася ля варотцаў. Проста на зямлі, на халодным цэментаваным ходнічку ляжаў муж.

— Сеня! Сеня, што ты? — яна дапамагла падняцца, завалакла ў дом, сцягнула робу, паклала мужа ў ложак.

Сеньку нудзіла.

— Ці ж можна так набірацца? Праз меру, — яна папраўляла коўдру і прыгаворвала: — Ты ж мог і на дарозе заваліцца. Ну як жа так, Сеня? Машыны лётаюць. Пераедзе каторы і не азірнецца. А як мы без цябе? Ты што — малы, Сеня? Як тады нам без цябе?

І ўрэшце Сеньку прарвала. Ён загаласіў наўзрыд, жаласна, доўга, са слязмі і сапылямі.

— Ну што ты, Сеня? — гладзіла Таня яго шурпатыя рукі, сухі, абветраны твар, скамканыя валасы. — Нічога, нічога. Усё абыдзецца. Паспі, паспі. Паедзем вось з табой у нядзелю ў горад, купім табе куртку новую. Гэтая ж зусім абтрапалася. Не шкадуеш ты сябе, Сеня. І бацінкі нагледзела, толькі прымерыць трэба. Нельга ў мокрым абутку восенню.

Сеня задрамаў лёгка, салодка, хоць доўга яшчэ чмыхаў носам і ўсхліпваў. Ён увачавідкі заўважыў, як боль і сум паплылі вунь у той дальні куток, зачапіліся за цвік і павіслі вехацем засушанага палыну. Няхай вісяць, дачынення да яго яны цяпер зусім не мелі.

А Таня гладзіла яго галаву і прыгаворвала:

— Паспі, паспі, адпачнеш, усё наладзіцца. Што ты, Сеня, нам без цябе аніяк.

# У пустэчы самотнасці



Дзяніс СІДАРОК



Фота pxhere.com

***

*Прыляцяць сняжынкі анёламі.*
*Ты ў анёлаў не верыш? А ў снег?*
*Я хацеў бы, каб мы сталі зорамі*
*і наш выбух стварыў новы свет:*

*выкшталцоны і з формаў нязведаных —*
*песняй сэрцаў сатканы ўзор.*
*Мы б раслі там прыгожымі кветкамі,*
*напаўняючы шчасцем прастор.*

*У расстанні мажнеюць пачуцці.*
*Чую я праз адлегласць і змрок:*
*без цябе мяне проста не будзе, —*
*ты мой Лёс, мая Вечнасць, мой Бог.*

***

*Тут, дзе мяжуюцца сны і кашмары,*
*дзе час набывае нязвыклыя рысы,*
*тут кожны з нас пад пячаткай цяжару*
*па-свойму прагне збаўлення і літасці.*

*У вузкай прасторы нявечыцца розум,*
*і нікне душа — у пустэчы самотнасці.*
*Апошні груган*
*крычыць тут пагрозліва,*
*каб кінулі рэшткі сваёй яму годнасці.*

*Тут наша мінулае, бы недарэчнае,*
*змяшана ў сумненнях зблытаных думак,*
*а да ўсяго светлага, чыстага, вечнага*
*даўно ўжо забыты патрэбны кірунак.*

*І вось, нібы попел, адкінуўшы памяць*
*ў нястомнае жэрла брытвы Акамма,*
*тут можам сябе даастатку мы страціць*
*і больш не знайсціся ў людскім акіяне.*

*Тут, зрэшты, ва ўсіх запаветная мара:*
*каб* ***заўтра*** *займела волі абрысы.*
*Тут, дзе мяжуюцца сны і кашмары,*
*дзе час набыў невядомыя рысы.*

***

*Ад маладзіка да поўні*
*неба квітнее любоўю,*
*зоркі ўсмешкамі свецяць*
*малым і вялікім дзецям.*

*Пілiпку разам з Адэляй*
*нясуць у прасторы арэлі,*
*што зроблены з сэрцаў частак*
*маці й далёкага таткі…*

***

*Я голы, што тое дрэва,*
*якому ні час, ні зубы*
*ў халодных руках чалавечых*
*ужо не пакінулі шансаў*
*застацца такім, як раней;*
*раструшчаны і пакалечаны,*
*падрэзаны не пад корань,*
*а крыху вышэй, пад душу,*
*нібы без яе лягчэй.*

***

***Я так люблю вас!***

*Памяць пакутамі ў сэрцы*
*звініць ледзь не кожны момант.*
*Так цяжка ў добрае верыць*
*з кожнай слязы кропляй.*

*А слёзы бягуць бясконца,*
*і не ад слабасці й стомы,*
*а ад таго, што мае тры сонцы*
*недзе зусім побач…*

***

*Спахмурнела жыцця вясёлка…*
*Як раней на скуру зважалі,*
*гэтак сёння цэтліка колер*
*вызначае тваё існаванне.*

*Знемагчымелі простыя рэчы,*
*людзі нібы, нібы не людзі.*
*Я залішні і недарэчны,*
*можа, справа не толькі ў прысудзе?*

***

*Рушыцца звыклае наваколле,*
*лёс стаўся лёсам болю, нядолі*
*і адраджэння старых пытанняў:*
*«Хто я? Чаму ўсё? Што гэта з намі?»*

***

*Тут нават сонца не бачна…*
*Апагею тысяча дзён,*
*так, лік часу зусім страчаны,*
*нібы нечы пякучы праклён.*
*У гэтым павінны быць нейкі сэнс.*
*Цяжка жыць без надзеі і веры,*
*цяжка бачыць чорнае белым.*

***

**Дарэмна імкнешся парваныя струны**
**У пальцах знясіленых рук утрымаць.**

*Між хваляў —*
*няўмольна-халодна-бяздушных, —*
*праекцый хімерных, пустэчы вачэй*
*па кроплях збіраем годнасць і мужнасць,*
*бы промні забытых і згаслых надзей.*

*Світання палон труною здаецца*
*апошняе зорцы самотнай адной…*
*Змілуецца час, адродзіцца фенікс*
*ад дотыку вуснаў каханай сваёй.*

***

*Час ідзе, ды ўсё тыя ж звычкі*
*і прага хадзіць дагары нагамі,*
*нязгаслай нянавісці чорныя знічкі*
*і спробы сябе адчуваць багамі.*

*Усё складанае — вельмі простае,*
*шляхі чалавечыя — не прапісаны.*
*Слабыя становяцца моцнымі,*
*а вобраз прыдуманы — існасцю.*

***

*Час прыходзіць цаніць малое,*
*напружваць памяць, заплюшчыўшы вочы,*
*і адчуваць, што любіш сонейка залатое*
*ды месяцам асвечаныя ночы.*

*І ты становішся некім іншым*
*па волі сваёй і чужой таксама,*
*і ўсе турботы ў той час нявырашаныя*
*здаюцца цяпер звычайнымі справамі.*

*І ты вызначаеш свой шлях сапраўдны —*
*ніколі не позна выбар зрабіць.*
*Бывае, паверыць так лёгка ў няпраўду,*
*а вось чалавекам складана быць.*

*Дарэмна шукаць справядлівасць і сэнсы,*
*усё, што прызначана, прыйдзе ціха.*
*Заўсёды раскрыецца,*
*што хавае знешнасць,*
*а ўсё малое стане вялікім.*

***

*Адгукнецца ўнутры рэхам, —*
*злым, нясцерпным —*
*стогнам хваляў марскіх*
*шалёны, адчайны крык,*
*калі моц спыняе каменне,*
*а святло хаваецца ценямі.*

*Пабягуць мурашамі па целе*
*незлічоныя гронкі гневу,*
*бліскавіцаю зробяцца нервы,*
*застанецца сабою смеласць.*
*Нас зрабіла мацнейшымі тое,*
*што імкнулася збіць і забіць.*

*Усміхнецца нязменная Вечнасць*
*палымянага Сонца зоркаю,*
*Суддзі*
*бязлітасным поглядам*
*для пачварнасці і недарэчнасці,*
*для кагосьці надзеі светачам,*
*а для хціўцаў — воцатам.*

***

*Артэрыяльны ціск на нулі.*
*Сэрца, што з табою?*
*Няўжо нехта паспеў*
*знішчыць маю мрою?*

*У адваротным напрамку*
*па целе цячэ кроў.*
*Я не трапляю ў рамкі*
*няспынных грамадскіх сноў.*

*Па-над маёй галавою*
*хаваецца неба ў хмарах*
*і крычыць надрыўна, з тугою:*
*«Вярніце мае мары!»*

*Трэба ісці змагацца*
*за мрою сэрца свайго.*
*Няхай у медыцынскай картцы*
*пішуць пра боль яго.*

*Яно не спыніцца, покуль*
*мы некаму будзем патрэбны.*
*І покуль нашыя крокі*
*будзе адчуваць глеба.*

***

*Кожны чалавек — сонца*
*са святлом незгасальным у целе,*
*з непаўторным бляскам у вачах.*
*Проста анёлы ды Бог не паспелі*
*адкрыць з нябёсаў аконца*
*і выкінуць сонечны сцяг…*

*Ты не ведаеш, што ты сонца.*
*Ты кажаш: промняў не бачна*
*або ёсць, ды згаслі ад болю?*
*Ветрык хмарамі закрыў, значыць.*

*А я веру, што ты — сонца,*
*Што вакол цябе з промняў вясёлка.*
*І не так у гэтым свеце пуста,*
*і не так у гэтым свеце колка,*
*калі бачым у іншых мы сонца,*
*калі бачым у іншых мы чалавека.*

*Я — чалавек, я — сонца.*
*Я патрэбен сябрам, Радзіме.*
*Я — сонечнага святла абаронца,*
*можа, і цябе на гэта спадзвігну.*

**Паводле Барыса Пастэрнака**

*Знайсці чарніла — стаць галотай,*
*пісаць аб лютым, слёзы ліць,*
*пакуль грукотлівая слота*
*вясною чорнаю гарыць.*

*Дастаць пралётку. За шэсць грывень*
*праз дабравест, праз колаў стос*
*пераляцець туды, дзе лівень*
*яшчэ грамчэй чарніла й слёз.*

*Туды, дзе, быццам з вуглю грушы,*
*з кустоў, з высокіх дрэў гракі*
*зрываюцца чаргой у лужы,*
*хаваюць смутак у душы.*

*Пад ёй пратaліны чарней*
*і вецер крыкамі парыты,*
*чым выпадковей, тым мацней*
*па вершах слёзы й сны разліты.*

**Паводле Марыны Цвятаевай**

*Пуцявіны. На вёрсты, мілі*
*нас рас-ставілі, рас-садзілі,*
*каб, паводзячы ціха сябе,*
*разумелі прысуджаны грэх.*
*Пуцявіны — шляхі і далечы —*
*нас рас-клеілі на нязначнасці.*
*Удвуруч развялі, распялі,*
*ды не ведалі, што са сталі*
*нашы жылы, натхненні, мроі.*
*Нас рас-сварылі, абяззброілі,*
*расслаілі. Сцяна ды роў —*
*рассялілі нас, як арлоў,*
*нібы змоўшчыкаў. Вёрсты,*
*далечы нас расстроілі і — страцілі.*
*Па трушчобах зямных шыротаў*
*раскідалі нас, як сіротаў.*
*Каторы год гэты страшны жарт:*
*разбілі нас, як калоду карт.*

***

*Што я пакіну пасля сябе?..*
*Попелу подых над роднай зямлёй,*
*маленькі і непрыкметны цень,*
*разліты ў радках вершаваных боль?!*

*Усмешку дзяцей — анёлаў бялюткіх,*
*ў замкнёным куфэрку забыты пах,*
*след на траве ад нагі без абутку,*
*сымбалі-літары на лістках?*

*Самотнага рэха — у лесе спеў,*
*пустыя вокны пакінутай хаты,*
*апалае лісце з пасаджаных дрэў,*
*гады, нібы пыл, за калючымі кратамі?!*

*Пажоўклы блакіт разумных вачэй,*
*нясправджаных мрой і памкненняў мех,*
*хісткую памяць асобных людзей, —*
*што я пакіну пасля сябе?!*

*Што я пакіну пасля сябе?..*
*Прорву над жытам, віно з дзьмухаўцоў,*
*каханне да той, што стварала Сусвет,*
*хворага сэрца жарсць і любоў?*

*Слой угнаення, што зробіцца ворывам,*
*кроплі крыві, што сальюцца ў мора?*
*Атамаў купку для новай планеты,*
*дзіўнага белага лепшага свету?*

*О, колькі пытанняў! І ўсе без адказаў…*
*Зайздрасці рэшткі і слабасці спазмаў…*
*А ў самым апошнім звароце да Вечнасці —*
*сакрэт годнасці і чалавечнасці.*

*Што я пакіну пасля сябе?..*

# На небязлюдным востраве



Уладзімір ВАСЬКО

Дзядзька Васіль Бякрэнь угаворваў свайго пляменніка Дамяніка Бякрэня паехаць у Англію. Ён казаў:

— Там жыве бацькаў бацька, твой дзед Янук. Адведаем яго.

Дамянік пагадзіўся.

— Ну і добра, — сказаў Васіль.

Як яны даехалі, як даплылі — цяпер цяжка сказаць. Аднак да Англіі дабраліся і трапілі ў Лондан. Размясціліся яны на кватэры Янука. За тры гады вывучылі англійскую мову. Паколькі Дамянік быў мажны, адважны, моцнага здароўя, яго ўзялі служыць у марскі флот. І вось судна на чале з капітанам Бартонам адправілася ў Ціхі акіян на пірацкі промысел. Гэта было ў 1703 годзе.

Экіпаж судна складаўся ў асноўным з «марскіх шакалаў» і «марскіх гіен», падабраных у партовых кабаках Англіі. Дамянік быў сярод іх белаю варонаю.

Бартон быў даволі жорсткім і крутым чалавекам. За малейшую правіннасць ён высаджваў маракоў на востраў. Высадзіў ён на бязлюдны востраў і беларуса Дамяніка Бякрэня за яго пярэчанні начальству.

Судна не магло даплысці да берага: было занадта плытка. Дамяніка даставілі на шлюпцы. Пры гэтым яму дазволілі ўзяць з сабою сякеру, пілку, нож, талерку, каструлі, кубак, вядро, некалькі лыжак, свярдзёлак і каля паўсотні банак кансерваў.

Дамянік сеў на маленькі грудочак і пазіраў, як адплывае ў марскую сінечу пірацкі карабель. Маракі памахалі Дамяніку на развітанне рукамі, ён ім — таксама.

Капітан карабля Бартон памыліўся: востраў аказаўся не бязлюдным. На ім жылі туземцы. Проста яны былі далекавата ад месца высадкі Дамяніка, і за дрэвамі Бартон і маракі не ўбачылі іх.

Дамянік пасядзеў крыху на беразе ў роздуме, пасля што ўзваліў на плечы, што ўзяў у рукі — і пакрочыў углыб вострава. Прайшоў няшмат і неўзабаве між дрэў на прагаліне ўбачыў людзей. Спачатку пабаяўся набліжацца: а раптам яны агрэсіўныя і нападуць на яго. Пасля асмялеў і напрасткі пакіраваў да іх.

Яны круціліся каля кастра, мабыць, рыхтавалі снеданне, бо нешта то клалі збоку ад агню на вуголле, то выкочвалі ражнамі на траву і елі. Убачыўшы незнаёмца, туземцы нікольні не здзівіліся, ён для іх быў не ў дзіковінку: тут ужо, мусіць, пабывалі еўрапейцы, хоць ніякага следу пасля сябе не пакінулі.

Дамянік прыкмеціў, што ўсе мужчыны і жанчыны смуглацелыя, накшталт індзейцаў. Наблізіўшыся і сказаўшы «Добры дзень», ён паклаў на зямлю сваю ношу і стаў ля кастра. Адзін з туземцаў падняў з травы падсмажанага і крыху астылага слізняка і падаў Дамяніку. Дамянік, крывячыся, з'еў яго і пагладзіў рукою па жываце — як знак таго, што слізняк — смаката. А самога ледзь не званітавала. У сваю чаргу ён развязаў мяшок, дастаў адтуль некалькі кансерваў, нож, талерку, ускрыў і выклаў кансервы на талерку. Туземцы нешта «прамявукалі» між сабою і пацягнуліся рукамі да яды.

Дружба пачалася…

Адзетыя туземцы былі не вельмі раскошна. У паясніцы яны падпярэзваліся нейкімі тонкімі, гнуткімі лазінамі, на якія начаплялі лісты падбелу. Астатнія часткі цела былі непрыкрытымі: востраў размяшчаўся непадалёку ад экватара, і цяпла тут хапала.

Дамянік, каб не паказаць сябе нецывілізаваным чалавекам, асабліва вачэй на дзяўчат не вытарашчваў. Ён найперш хацеў паказаць сябе ў справе. Убачыўшы, што мужчыны ломяць на каленях галінкі, ён узяў сякеру, пайшоў у лес, які стаяў паблізу, насёк тоўстага сухога галля і паклаў на агонь — яно гарэла даўжэй, і вуголля ад яго было больш.

Па выразах твараў туземцаў Дамянік прачытаў, што яны ім задаволены, і стараўся яшчэ больш дагадзіць: падставаў з мяшка каструлю, кубак, некалькі лыжак, іншую дробязь. І яшчэ некалькі разоў схадзіў у лес па дровы.

Як толькі агонь прыкметна ўзмацніўся, да кастра аднекуль прыбег малады туземец, задыхаўшыся, нешта прапішчаў на сваёй мове і паказаў пальцам на бераг акіяна. Дамянік зразумеў, што там нешта адбылося ці адбываецца. Ну, а туземцам растлумачваць не патрэбна было, што там: яны і так зразумелі.

Самы старэйшы з іх, мабыць, важак, паказаў Дамяніку адною рукою на сякеру, а другою махнуў ісці разам з імі. Дамянік падняў сякеру і падумаў, што там прыйдзецца штосьці секчы. Ён здалёк прыкмеціў нейкую вялізную, доўгую тушу — гэта быў кіт, які, мусіць, нядаўна выкінуўся на пакаты бераг акіяна. Дамянік ведаў такую звычку гэтых рыб-гігантаў і ведаў, што яны не якія-небудзь мізэрныя слізнякі, а сапраўдны ласунак. Кіт быў ужо нежывы.

Дамянік з усяго размаху высякаў з яго кавалкі мяса і падаваў іх туземцам. А тут былі і мужчыны, і хлопцы, і жанчыны, і маладыя дзяўчаты, і дзеці. Важак загадаў класці мяса ў ваду, каб яно трошкі прасалілася, балазе, што акіян у гэтым месцы каля берага быў неглыбокі — усяго да кален. Акулы не змаглі б падплысці сюды і пакрасці спажыву.

Дамянік радаваўся знаходцы не менш за туземцаў: яшчэ б, кансервы хутка разышліся б — што тады есці? А тут такая туша!

Важак, аднак, адчуў, што Дамянік стаміўся, і паказаў рукамі перадаць сякеру маладому туземцу. Той на свежыя сілы шпарчэй стаў увіхацца над тушай кіта, а прысутныя спрытна выхоплівалі ў яго з-пад рук кавалкі мяса і насілі ў ваду. За паўдня ад кіта застаўся толькі хрыбетнік.

Сонца не так і моцна прыпякала ўжо, як у поўдзень, дробныя хвалі трапяталіся, паблісквалі каля берага — і гэта яшчэ больш прыдавала настрою Дамяніку і туземцам. Яны з паўгадзіны пачакалі, пасля даставалі з вады кавалкі мяса і неслі да вогнішча. Дамянік таксама прыхапіў сваю долю і, прыняўшы сякеру ад маладога туземца, крочыў разам з імі на стаянку.

Размясціліся ўсе вакол кастра, у якім ярка тлела вуголле. Падкінулі ў агонь некалькі бярэмцаў тонкіх і тоўстых галін, па краях раскладвалі і смажылі кітовае мяса. Гатовае тут жа з апетытам паядалі.

Пры кастры Дамянік запомніў некалькі дзявочых імён: Лілі, Ціці, Гого.

Пасля такога сытнага абеду захацелася піць. Дамянік падняў кубак з травы і перад важаком, які стаяў побач, прыпаднёс яго да рота. Важак адразу зразумеў, што з яго патрабуецца: паказаць, дзе можна набраць прэснай вады. Ён пальцам указаў на вядро і гэтай жа рукой махнуў у бок лесу. Дамянік падхапіў вядро, і яны разам адышлі ад кастра.

Па дарозе паразмаўляць, вядома, не выпадала, бо Дамянік не ведаў мовы туземцаў, а важак не ведаў ні англійскай, ні беларускай. Яны проста ішлі, часам паказвалі нешта на мігі адзін аднаму — і гэтага было дастаткова, каб між імі ўсталявалася ўзаемапаразуменне.

Дамянік прыкмеціў, што трава ў лесе даволі такі прытаптаная, у некаторых месцах яна нават не расла — значыць, сюдою людзі ходзяць на вадапой. Яго толькі хвалявала, што нідзе на галінах дрэў не было ні птушак, ні вавёрак, ні гнёздаў ніякай дзічыны — не тое, што ў беларускіх лясах. Такая беднасць птушынага і жывёльнага свету не падабалася яму. Затое ён убачыў, як на многіх кустах ірдзяцца чырвоныя і бурштынавыя ягады — і падумаў, што іх, магчыма, можна есці. Каля аднаго з кустоў Дамянік спыніў важака, сарваў ягаду, паднёс да вуснаў, вачыма запытаў, ці можна есці. Важак кіўнуў галавою, што можна. Дамянік з'еў яе. Яна аказалася даволі смачнай.

Праз некаторы час між дрэў заблішчэла шырокае люстэрка возера. І вось два мужчыны ўжо стаяць на яго беразе. Пры берагах у многіх месцах рос трыснёг, там-сям праглядваліся цёмна-зялёныя зараслі аіру, лазняку, з усіх бакоў (дзе бліжэй, дзе далей) да возера падступаў змешаны лес. На дробных хвалях гойдаліся белыя птушкі.

Дамянік зачарпнуў амаль поўнае вядро вады і паставіў на зямлю. Вяртацца назад не хацелася, карцела пабыць тут даўжэй, пахадзіць, паназіраць за дзікай прыродай вострава. Важак, нібы разгадаўшы жаданне Дамяніка, крануў яго за руку, і яны пайшлі ўздоўж берага. У зарасніках сядзелі на гнёздах вадаплаваючыя птушкі. Пры набліжэнні людзей яны ўзляталі і кружыліся ў паветры, выдаючы сваю трывогу. Дамянік з аднаго гнязда ўзяў рабое яйка і паказаў важаку. Той усміхнуўся, тыцнуў пальцам і нешта прамовіў, даючы ведаць, што там сядзіць зародыш птушаняці. Дамянік паслухмяна паклаў яйка на месца.

Яны рушылі далей, пільна пазіраючы ва ўсе бакі, на лес, на ваду. Неўзабаве перад імі ўзнікла нешырокая рачулка. Яна выцякала з возера і між дрэў, віхляючы то ўправа, то ўлева, імкнулася да акіяна. Мужчыны не захацелі ні перабрыдаць, ні перасkokваць цераз яе, проста спыніліся, крыху пастаялі і павярнулі назад. Дамянік падумаў, што, магчыма, з акіяна праз гэтую рачулку заплывае ў возера рыба на нераст і яе можна лавіць — таксама будзе неблагі наедак.

Пры пэўным запасе часу можна было б абысці і вакол возера, хоць яно і немалое па сваёй плошчы, але часу не хапала, ды і клопатаў навалілася сёння зашмат. Паспышалі вярнуцца дадому.

Між тым звечарэла. Цёплая, рахманая цішыня напаўзла на востраў. Настала пара разыходзіцца па шалашах і класціся спаць.

Важак парэкамендаваў Дамяніку правесці ноч у адным шалашы разам з двума маладымі туземцамі Гугу і Вуву і трыма дзяўчынамі — Лілі, Ціці і Гого. Па зямлі было паслана свежае, духмянае, не зусім яшчэ прымятае сена, пад галаву паклалі адмысловыя сянныя камякі.

Лілі легла каля Дамяніка.

У першую астраўную ноч вельмі добра спалася, а калі і не спалася, у прамежках між снамі бяды вялікай не было.

Раніцай туземцы павылазілі са сваіх шалашоў і, пазяхаючы, ішлі да кастра, галавешкі ў якім яшчэ тлелі. Дамянік з сякерай, Гугу і Вуву пакіравалі да лесу, каб назапасіць галля, іншыя пашыбавалі да акіяна па кітовае мяса, якое ў халоднай салёнай вадзе доўгі час магло захоўвацца.

Бубу, важак племені, стаяў пры кастры і назіраў за абстаноўкай. Як толькі Дамянік з Гугу і Вуву навалаклі шмат сухога галля і распалілі касцёр, Бубу разам з імі пайшоў да акіяна — і кожны з іх дастаў з вады сваю долю.

Сняданак у гэты дзень таксама быў надзвычай раскошным і прыемным. Туземцы прагна паядалі падсмажаныя кавалкі кітовага мяса і, задаволеныя сваім жыццём і лёсам, пра нешта размаўлялі паміж сабою, пазіраючы на Дамяніка. Аднак кожны з іх усведамляў, што рана ці позна кітовы наедак скончыцца, і таму ўжо сёння патрэбна дбаць аб новых крыніцах харчу.

Паснедаўшы, яны разышліся па лесе ў розныя бакі. Дамянік, Гугу і Вуву, а таксама Лілі, Ціці і Гого пакрочылі берагам акіяна направа. Дамянік спрабаваў навучыць іх вымаўляць некаторыя беларускія словы. Ён паказаў на лес і сказаў:

— Лес.

— Лес, — паўтарылі яны.

Прайшлі з паўкіламетра і ўбачылі ў вадзе некалькі малюскаў.

— Малюскі, — прамовіў Дамянік.

— Малюскі.

Яшчэ прашыбавалі некалькі крокаў далей і надыбалі на тую рачулку, якая выцякала з возера, а тут упадала ў Ціхі акіян.

— Рачулка, — сказаў Дамянік.

— Рачулка.

У ёй, прыціскаючыся да дна, плылі ўгору па плыні невялікія касякі рыб.

— Рыбкі, — вымавіў Дамянік.

— Рыбкі.

У вусці сваім рачулка была значна шырэй, чым у вытоку. Прыйшлося пераходзіць уброд. Невядома пра што думалі тут туземцы, а Дамянік прыкідваў, чым і як можна вылоўліваць гэтыя рыбкі. Сетак на гэтым востраве, вядома, не знойдзеш. Іх можна было б вывязаць, але з чаго? Нітак няма… І тут Дамянік убачыў па берагах рачулкі, далей ад акіяна, кусты лазняку. «Во гэта якраз тое, што трэба, — узважыў ён. — Нарэжу лазы і напляту кошыкаў. Імі будзем лавіць рыбу».

Яны прайшлі яшчэ, можа, кіламетраў з тры, але нічога прывабнага больш не знайшлі і пахіліліся ў лес паласавацца ягадамі.

Збіраючы ягады, Дамянік наткнуўся на нейкія кусты, у якіх былі роўныя высокія адросткі. Ён дастаў з кішэні нож і пачаў выразваць іх. Наблізілася Лілі і запытальна паглядзела.

— На кошык, — прамовіў ён.

— На кошык, — паўтарыла яна, не разумеючы, што гэта абазначае.

— Будзем лавіць рыбу.

— Рыбу.

— Ням, ням.

— Ням, ням.

Выразаўшы з дзясятак адросткаў, Дамянік узваліў іх на пляча — і туземцы здагадаліся, што пара вяртацца дамоў. Як і сюды, зноў шлі берагам акіяна. Перабрыўшы рачулку, Дамянік паклаў ношу на траву і накіраваўся да лазовых кустоў. Астравіцяне пацёгліся за ім.

З ношамі было крыху цяжэй ісці, але ўсе цешылі сябе думкамі, што вяртаюцца не з пустымі рукамі.

Дамянік адразу размясціўся каля вогнішча, сеўшы на перакінутую ўгору дном каструлю, і пачаў згінаць на каленях доўгія адросткі ў лукі, з рэшткаў выраблязь скабы і плёў кошык. У гэты час з лесу папрыходзілі астатнія туземцы. Стоўпіўшыся каля вогнішча, яны з недаўменнем пазіралі на Дамяніка, спрабуючы разгадаць, што ён робіць. Стаяў тут і важак племені Бубу. Ён таксама праявіў непрыхаваную цікавасць да вырабу і, нібы спрабуючы атрымаць адказ ад каго-небудзь у натоўпе, запытальна паглядзеў на Лілі.

— Кошык, — прамовіла дзяўчына.

— Кошык?

— Кошык.

Бубу, нічога не цямячы ў прызначэнні гэтага вырабу, пакруціў галавою.

— Лавіць рыбу, — дадаў Дамянік.

— Рыбу?

— Але.

Цяжка было зразумець, унік Бубу ў сэнс гэтых слоў ці не. Аднак Лілі інтуітыўна адчула, для чаго прызначаўся гэты кошык, і на сваёй мове ўсё растлумачыла важаку. Той скупа ўсміхнуўся і выразам твару паказаў сваё адабрэнне.

Да змяркання Дамянік сплёў вялікі і здатны кошык і, шчыра ўсміхнуўшыся, радасна сказаў:

— Заўтра пойдзем на рыбалку.

Заканчэнне на стар. 7 »

# На небязлюдным востраве

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 6

Наўрад ці хто з туземцаў здагадаўся, пра што ён гаворыць, аднак усе падумалі, што гэты чалавек настроены чыніць нешта добрае.

На другі дзень натоўп разам з важаком і Дамянікам рушыў у дарогу. У шалашы засталіся толькі маці з малымі дзяцьмі. Мацяркам было даручана назіраць за кастром, не даць яму затухнуць.

«Трэба, — падумаў Дамянік, — нарабіць шмат кошыкаў, няхай рыбачаць гэтыя гаротныя туземцы. Хопіць ім ужо харчавацца аднымі слізнякамі ды малюскамі. А кіты не так і часта выкідваюцца на бераг».

Над возерам Дамянік прыкінуў, што патрэбна яшчэ навучыць туземцаў, як рыбачыць, і ён запрасіў у ваду Гугу і Вуву. Сам з Гугу трымаў кошык за бакавы лук, паставіўшы яго пры густым, зялёным зеллі, а Вуву таптаўся нагамі і наганяў рыбу ў кошык. Першы раз нешта стукнула ў снасць, але пакуль яе паднялі, рыбіна выскачыла ў ваду. На другі раз пад стук рванулі хутчэй — і ў кошыку затрапяталася аж пяць плотак. Вуву выхопліваў іх і кідаў на бераг, а дзяўчаты падбіралі. У час далейшай лоўлі ў кошык трапляліся шчупакі, акуні, ліні і нейкая марская рыба, якую Дамянік бачыў упершыню і не ведаў, як яна называецца.

Калі хлопцы вылезлі з вады і ўсю рыбу пакідалі ў кошык, ён аказаўся запоўненым амаль да самага верху. Было што несці дамоў і было чым у гэты дзень харчавацца. Найбольш радаваўся здабычы важак, вочы якога так і свяціліся непрыхаваным шчасцем. А Дамянік цешыўся не толькі багатым уловам, але і таму, што навучыў туземцаў, як і чым лавіць азёрную рыбу.

***

Пасля абеду на неба наплыла з усходу невялікая хмарка — і пайшоў дождж. Усе зашыліся ў шалашы. Лілі зноў прылегла каля Дамяніка, гладзіла яго па валасах, па лобе, нешта пашэптвала на вуха, паказваючы ўсе дзесяць пальцаў сваіх рук, вымаўляючы словы «кошык». Дамянік зразумеў, што трэба сплесці яшчэ дзесяць кошыкаў, а можа, і больш, і сказаў:

— Зробім.

— Зробім, — агучыла яго слова Лілі.

Дождж, аднак, хутка сцішыўся, а пасля і зусім перастаў ісці. Усе зноў павылазілі са сваіх шалашоў. Патрэбна было чымсьці заняць людзей — і Дамянік мабілізаваў маладых хлопцаў і дзяўчат на нарыхтоўку адросткаў і лазін для пляцення кошыкаў.

Нарыхтавалі туземцы адросткаў і лазін у гэты дзень вельмі шмат, дастаткова, каб сплесці з іх не дзесяць ці дваццаць, а і больш кошыкаў. Прынёсшы сыравіну да кастра, які быў своеасаблівым цэнтрам стаянкі, месцам зборышча туземцаў, распачынаць работу не сталі, бо пачынала вечарэць, перанеслі яе на наступны дзень. У кожнага было адчуванне, што зрабілі і так нямала і што з палёгкай на душы можна спакойна адпачываць.

На наступны дзень Дамянік з раніцы пачаў вучыць туземцаў, як плесці кошыкі. Аднак гэты занятак аказаўся не простым. У адных трэскаліся пры рэзкім згібанні лукі, у другіх ламаліся скабы. Туземцы напружана ўнікалі ў сакрэты дамянікавай навукі і пачыналі больш акуратна працаваць. Седзячы паблізу адзін ад другога, яны іншы раз раіліся паміж сабой, перараймалі вопыт у таго, у каго атрымлівалася лепш. А Дамянік, ходзячы перад імі, назіраў за іх работай, нахіляючыся, дапамагаў няўмекам. Пераканаўшыся, што ўсё ў іх пайшло добра, сам сеў на тую ж перакінутую ўгору дном каструлю і пачаў плесці кошык.

І раптам яму ў галаву прыйшоў успамін, як у іх вёсцы Зачэпічы, што на Гродзеншчыне, сяляне майстравалі бучы, ставілі іх у вузкую рачулку, што ўпадала ў Нёман, і лавілі рыбу, якая плыла на нераст. Канструкцыя бучы вельмі простая — і Дамянік рашыў: «Вось толькі дапляту кошык — і вазьмуся за бучу. Адросткаў і лазы для гэтага хапае». І ён да абеда, сапраўды, змайстраваў дыхтоўную, прадаўгаватую бучу, а пад вечар, схадзіў з Лілі на бераг рачулкі і ў самым вузкім месцы паставіў снасць горлам да акіяна. За ноч рыбы набілася поўны куль. Раніцай Дамянік вытрас улоў у новенькі кошык, прынёс да кастра і паказаў туземцам: во, маўляў, глядзіце, і бучай лавіць рыбу добра. Тыя знакамі паказалі, што і яны хочуць навучыцца майстраваць такую снасць. Тады Дамянік заснаваў новую бучу і, паказваючы туземцам, як гэта рабіць, старанна выгінаў лазовыя кольцы для куля.


Фота myskillsconnect.com

А каля кастра тым часам стоўпілася нямала люду: тут круціліся маці з дзецьмі, маладыя дзяўчаты, важак племені, падлеткі. Дамянік глянуў на важака, кіўнуў галавой у бок хлопцаў, якія плялі кошыкі, і прамовіў:

— Малайцы.

— Малайцы, — паўтарыў Бубу.

— А гэта буча, — патлумачыла Лілі важаку пра снасць, над якою нахіляўся Дамянік.

— Буча…

Нейкай ажыўленай, урачыстай выглядала ў гэты дзень абстаноўка вакол кастра. Твары дзяўчат упрыгожвалі пяшчотныя ўсмешкі, зыркімі агеньчыкамі пабліскавалі чорныя вочы туземак. Сонца шчодра пасылала з вышыні цяпло павесялелым людзям, а белыя аблачынкі, нібы падміргваючы ім, па-святочнаму праплывалі ў сінім небе.

За чатыры дні туземцы разам з Дамянікам сплялі дваццаць сем кошыкаў і змайстравалі дзевяць бучаў — гэта быў неблагі набытак для дзікага племені. А час абяцаў яшчэ лепшыя здабыткі.

***

На трэцім месяцы прабывання Дамяніка на востраве на стаянку туземцаў навалілася бура. Яна прыляцела з цёмнай хмарай аднекуль здалёк, з акіяна, паваліла і параскідала шалашы, падняла ў паветра кошыкі, бучы, ламала і выварочвала з карэннем дрэвы. Людзі ў паніцы, са страху кідаліся ва ўсе бакі, шукаючы паратунку. Некаторыя беглі ў лясны гушчар, але і там было небяспечна: на іх вачах трашчалі і падалі дрэвы, бліскала над галавой маланка, удары грому сатрасалі наваколле, дождж ліў, як з вядра.

На шчасце, навальніца неўзабаве прайшла, людзі вярталіся на сваю стаянку, збіралі голле, узнаўлялі шалашы, туземкі пазбіралі кошыкі і бучы. Зноў ярка засвяціла і прыпякло сонца. Яно не дало дарэшты затухнуць кастру. Падсыхала трава.

«Не, — сказаў сам сабе Дамянік, — так справа не пойдзе. Трэба ўзводзіць які-небудзь будан». У галаве роіліся думкі, як пачаць, дзе ўзяць матэрыял на падмурак, з чаго зрабіць дах, столь, падлогу, вокны, дзверы. Ён пацёгся да лесу і, аглядаючы лесапавалы, прыкідваў, якія з дрэў можна выкарыстоўваць на ўзвядзенне зруба, на кроквы, на латы. Будматэрыялаў тут хапала. Застаўшыся задаволеным, ён вярнуўся назад і, убачыўшы каля ўзноўленага шалаша разгубленага важака, сказаў, што патрэбна ўзводзіць хату. Але той нічога не зразумеў. Тады Дамянік падняў ражон і паклікаў Бубу на бераг акіяна. Там, на спрасаваным пяску, ён намаляваў здатны будан з вокнамі і дзвярыма, рыскамі пазначыў бярвенні ў сценах — і важак здагадаўся, пра што ідзе размова.

— Дом, — прамовіў Дамянік.

— Дом.

У згодзе яны рушылі да стаянкі. Непадалёку ад шалашоў выбралі роўнае, гладкае месца — пляцоўку для забудовы.

— Вось тут, — прапанаваў Дамянік.

— Тут, — пагадзіўся Бубу.

Счакаўшы, пакуль у лесе добра падсохне, пайшлі да лесапавалаў. Дамянік сам выбіраў адпаведнай даўжыні і таўшчыні дрэвы, прыгодныя для будаўніцтва. Але перш, чым пачаць работу, ён высек прыкладна мятровую мерку для замера даўжыні бярвенняў. На бакавыя сцены меркаваў, хопіць дванаццаці метраў, а на лабавую і тыльную — сямі.

Увогуле, праца вельмі добра ладзілася: адны абсякалі сукі, другія выносілі бярвенні да пляцоўкі, трэція цягалі голле да кастра.

Нарэшце пачалося ўзвядзенне хаты. Каменяў на падмурак не знайшлося, дык замест іх выкарысталі тоўстыя, смалістыя бярвенні, паклаўшы іх на голую зямлю. У кругляках пазоў не высякалі, проста клалі адзін на другі, змацоўваючы ў скрыжаваннях адпаведнымі выразамі. Вокнаў не шклілі, дзвярэй не ўстаўлялі, падлогі не ўкладвалі, столі не рабілі, бо не было для гэтага ні шкла, ні дошак. Дах накрылі трыснягом, на падлогу пайшло сухое сена.

Атрымалася выдатная сялянская хата, у якой жыць і хавацца ад бураў і навальніц было нашмат лепей, чым у прымітыўных шалашах.

За чатыры гады туземцы пад камандай Дамяніка агульнымі намаганнямі ўзвялі восем такіх хатаў, якія ўтварылі невялікую вёсачку. Па прапанове Дамяніка яе назвалі Зачэпічамі.

***

Неяк у поўдзень вельмі моцна прыпякло сонца. Неба пакінулі апошнія белыя аблачынкі. Ветрык, хоць і да гэтага быў слабаваты, зусім памякчэў.

Усе туземцы пазашываліся ў хаты, а Дамяніку ўсё нешта рупілася. Ён вырваў некалькі разлапістых лістоў падбелу, звязаў іх між сабою прадаўгаватымі, жылістымі сцяблінамі і, як капялюш, які добра ахоўвае ад невыносных прамянёў сонца, накінуў на галаву. Пакрочыў на бераг акіяна, дайшоў да таго месца, дзе яго высадзілі на гэты востраў маракі Бартона.

Сумнавата стала Дамяніку. Ён прыгадаў дзеда Янука, дзядзьку Васіля. Што з імі там, у Лондане? А можа, дзядзька Васіль ужо вярнуўся ў Беларусь, у свае родныя Зачэпічы? Нічога невядома… У скрусе Дамянік пазіраў у бязмежныя прасторы акіяна, але на гарызонце не ўбачыў ні аднаго карабля. Магчыма, яны калі-небудзь і праплывалі збоч, але не спыняліся тут. Дамяніка асяніла думка: паставіць у гэтым месцы які-небудзь знак — можа, ён будзе прыцягваць увагу маракоў. Дамянік вярнуўся на стаянку, узяў сякеру, зайшоў у лес і высек высокую, тонкую жардзіну. З кавалка адпліаванай раней верхавіны змайстраваў штосьці накшталт прымітыўнай рыдлёўкі, завостранай у камлі. Узваліў жардзіну на левае плячо, у правую руку ўзяў рыдлёўку, сякеру заткнуў за дзягу і выйшаў з лесу. Схамянуўся: «А што ж я павешу прыкметнае на верх жардзіны, каб было прыманкай?» Апошняй цяльняшкі стала шкада… Тады ён падхапіў з зямлі кошык і, рады сваёй вынаходлівасці, пакрочыў да акіяна. На беразе выкапаў прыкладна мятровай глыбіні яму, раскалоў у вершаліне жардзіну, засунуў у трэшчыну верхні лук кошыка, укапаў жардзіну, патаптаўся вакол яе, утрамбоўваючы нагамі зямлю, і глянуў угору: прыманка падалася не горшай, чым цяльняшка. Можа, гэты абармот Бартон, калі будзе праплываць на караблі сюдою, клюне на яе?

***

Трывалых сем'яў у асяроддзі туземцаў не было, яны жылі статкам (дзеці былі агульнымі), і Дамянік спакваля ўкліняўся ў гэты статак. За некалькі гадоў Дамянік прыдбаў аж дваццаць дзяцей, падобных і на яго, і на Лілі, і на іншых туземак. Былі сярод іх і светлатварыя, і смуглявыя — усялякія. Самаму старэйшаму хлопчыку споўнілася пяць гадкоў, а самай малодшай дзяўчынцы — усяго два месяцы. «Вось бы з гэтай кампаніяй паехаць у Беларусь, — казаў сам сабе Дамянік, — здзівіў бы ўсіх вяскоўцаў».

З тугой па радзіме ён часта выходзіў на бераг акіяна і, аглядаючы водную роўнядзь, спадзяваўся, што ўдасца ўсё-такі ўбачыць калі-небудзь карабель. І вось аднойчы позірк яго ўлавіў на гарызонце нешта накшталт ветраза. Гэтая плямка паступова расла і ўзбуйнялася. А неўзабаве паказаўся і сам карабель. Ён трымаў курс прама на востраў. Дамянік абрадаваўся і пачаў махаць рукамі. Карабель усё набліжаўся і набліжаўся і, не даплыўшы некалькі дзесяткаў метраў да берага, спыніўся. На палубе заклапочана замітусіліся маракі. Яны апусцілі на ваду шлюпку, і некалькі чалавек, заграбаючы вёсламі, імкліва пагналі яе да вострава. Пры набліжэнні Дамянік у групе мараплаўцаў распазнаў Бартона. Той першым рашуча ступіў на бераг і без усякіх уступных слоў адрэзаў:

— Збірай манаткі. Паплывём у Англію.

— Я тут не адзін. У мяне дваццаць дзяцей і дваццаць жонак. Калі возьмеце ўсіх, то паедзем.

— Куды?! Мы не зможам пракарміць такую араву. У нас саміх не хопіць правіянту даплысці да Англіі.

— Тады шуруйце адсюль, каб я вас не бачыў, бо зараз як натраўлю на вас туземцаў — з вас толькі пер'е пасыплецца.

І яны адчалілі.

А Дамянік, склаўшы далоні трубачкай, выгукнуў ім наўздагон:

— Будзеце плысці другі раз сюды, захапіце для нас мех жыта і два мяхі рэпы ці, калі знойдзеце, бульбы!..

# Здрадная свінне



Павел ЛЯХНОВІЧ

Стаіць у Нарвегіі, непадалёк ад мяжы з Расіяй, высокая сопка. Ці то насупраць Печангі, ці то Ліінахамары, а можа Нікеля. Гэта цяпер не вельмі важна. Важна тое, што на сопцы гэтай вельмі магутны тэлескоп усталяваны, і калі няма дажджу або снегападу, праз гэты тэлескоп уся Кольская затока разам з Мотаўскай — як на далоні. А гэта ж амаль што ўвесь Паўночны флот. Бартавыя нумары караблёў, ды што там бартавыя — баявыя нумары на матроскіх галандках супастаты натаўскія чытаюць. Прынамсі так асабісты, то рэч «унукі» жалезнага Фэліка, земляка нашага, кажуць.

Прынеслі неяк начальніку супастацкаму здымкі. На іх стратэгічны падводны крэйсер з Сайда-губы ў мора выходзіць. Дакладваюць: так і так — на баявую службу выходзіць падводны крэйсер тыпу «Кальмар», праект 667 БДР, шаснаццаць балістычных ракет, камандзір Іваноў... Ну, усе звесткі далажылі начальніку, што з розных выведных крыніц атрымалі. Толькі, кажуць, ёсць тут адна незвычайнасць. Што б гэта магло значыць, не можам расшыфраваць. Збіралі ўсіх адмыслоўцаў, мазгавы штурм рабілі — не, ніякай прыстойнай версіі не выходзіць. Тут, сэр начальнік (бос па-іхняму), вось на чорнай спіне ракетна-ядзернага монстра расійскага нешта белае. Гэта, у чорных бушлатах і аранжавых выратавальных камізэльках — швартоўныя каманды. Гэтыя, на мосціку, у скураных куртках з башлыкамі, група кіравання: камандзір, штурман, вахценны афіцэр. З гэтымі ўсё зразумела. Нават прозвішчы ведаем. А вось на ракетнай палубе... вельмі свінню нагадвае. Можа, якія новыя сакрэтныя сродкі выратавальныя? Гідракасцюм невядомы? Тады чаму не вертыкальна, а гарызантальна? Можа, у стане алкагольнага ап'янення? Яны часам злоўжываюць — традыцыя такая нацыянальная — і часам не паспяваюць да выхаду ў мора працверазець... Ці сапраўды свіння? Падобна — так. Але навошта на стратэгічным ракетна-ядзерным караблі — свіння?

Прыгледзеўся бос да здымка, нават лупу ўзяў. Сапраўды — свіння.

— Думаю, — кажа, — гэта нейкая новая зброя расійская. На Чарнаморскім флоце па маіх звестках яны баявых дэльфінаў рыхтуюць — смертнікаў, варожыя караблі падрываць. А тут, відаць — баявых свіней... Хоць... Ах, гэтая таямнічая руская душа!... А выклічце мне майго асабістага сакрэтнага эксперта!

І выклікалі. Ці то эмігрант з «першай хвалі», ці то беглы кэгэбульнік. Вельмі сакрэтны.

Паглядзеў эксперт, адразу важны стаў:

— Паслугі мае, — цэдзіць праз губу, — эксклюзіўныя. Ніхто, апроч мяне, растлумачыць гэты факт не здолее. Таму гэта каштаваць вам будзе... — і лічбу называе такую, што падводніку расійскаму, каб столькі хоць бы ў рублях савецкіх атрымаць, трэба гадоў семдзесят з «жалеза» не злазіць. — А экспертнае заключэнне, што я вам даць маю, вельмі сур'ёзнае для гарантавання бяспекі...

— Ноў проблем, — кажа бос. — Дзеля бяспекі гэта дык зусім грошы невялікія... Ну, і што гэта за аб'ект на стратэгічным аб'екце (пшэпрашам за таўталогію, сэр эксперт)?

— Гэта свіння, сэр бос.

— І я думаю, што свіння, сэр эксперт. Але якую небяспеку нясе гэтая свіння нашай нацыянальнай бяспецы? Мабыць — гэта баявая свіння-смертніца, накшталт баявых дэльфінаў?

— Так, сэр бос, гэта свіння-смертніца. А факт яе знаходжання на борце стратэгічнай падводнай адзінкі сведчыць аб знаходжанні на гэтым борце высокага начальніка, што ў сваю чаргу сведчыць аб незвычайнай баявой службе гэтай адзінкі, можа, нават аб баявой службе, сумешчанай з перадыслакацыяй гэтай адзінкі на іншы акіянскі тэатр... Так што чакайце ў хуткім часе гэты крэйсер на Ціхім акіяне...

Як у ваду глядзеў!

Камандуючы флатыліяй падводных лодак меў на кожным пагоне па дзве зоркі-«павукі» і вельмі хацеў яшчэ адну — на грудзі. Камандуючы, віцэ-адмірал, не быў яшчэ Героем Савецкага Саюза. А тут выпадала неблагая магчымасць: сябры з Галоўнага штаба ВМФ шапнулі, што калі ўсё пройдзе «ціп-топ», старшы на пераходзе атрымае зорку. Тую самую, залатую. Дык не аддаваць жа яе камандзіру лодкі! Хоць і рызыкоўна, але такога выпадку больш можа не здарыцца. Гады, ведаеце...



Фота war-book.ru

...Кожнаму, хто цікавіцца, вядома: самыя стратэгічныя ў свеце падводныя лодкі будуюць карабелы з Северадзвінску, што на Белым моры. І што з розных прычынаў гэтыя атамныя веліканы з ядзернай зброяй служаць толькі на Паўночным флоце і на Ціхаакіянскім. Зазвычай караблі з Белага мора пераганялі на Камчатку амаль кругасветным шляхам — вакол Еўропы-Афрыкі-Азіі. Памазгавалі ў Маскве людзі з дзяржаўнымі глуздамі і вырашылі паспрабаваць пераганяць іх кароткім шляхам: паўночным марскім, уздоўж эсэсэсэраўскага пабярэжжа. Здагадаліся — так больш выгадна. І выдзелілі на гэтую справу першаму камандзіру, які лодку з Поўначы на Ціхі акіян перагоніць, залатую зорку. Ну, і яшчэ там ордэнаў колькі, медалёў — тым, на каго ў выпадку паспяховага пераходу зампаліт, прадстаўнік кіруючай партыі ў флоцкім целе, пакажа. Дык што гэта будзе? Камандзір — Герой, а Камандуючы — не? Таму і прапанаваў сябе адмірал з двума «павукамі» на пагонах у старшыя на пераходзе.

У Карабельным Статуце Ваенна-марскога флота СССР абавязкі распісаны ад камандзіра злучэння і ніжэй, флатылія ж падводных лодак з'яўляецца аб'яднаннем. Якія абавязкі ў камандуючага аб'яднаннем? А-а... Вось! Няма іх у Статуце. Апрача таго, артыкул 132 кажа так: «Прысутнасць на борце карабля старшых начальнікаў не здымае з камандзіра карабля адказнасці за карабель і выкананне сваіх абавязкаў». Так што калі пераход пройдзе ўдала — камандуючы малойца і Герой, калі не — камандзір падлодкі чмо і праснак каровін. Стратэгія, яцішкін бабай!..

...Пяць гадзінаў да выхаду. «Увага! На карабель прыбыў камандуючы флатыліяй і афіцэры штаба!» Праз дзесяць хвілінаў: «Камандзірам падраздзяленняў сабрацца ў каюткампаніі на даклад!»

«Бычкі» — так для сцісласці завуць падводнікі камандзіраў баявых частак — ціха мацюкаючыся, пасунуліся ў пяты «біс». Каюткампанія забіта штабнымі. Пазаймалі ўсе крэслы. Стоўпіліся «бычкі» — хто дзе — у праходах між сталамі.

— Таварышы афіцэры!!! — гэта каманда такая. Матросам гарлаюць «Смірна!», а афіцэрам — вось так. Усталі, хто сядзеў. Камандуючы зайшоў. Сеў у камандзірскае крэсла. Морда чырвоная, як бурак. У яго заўсёды чырвоная. Камандзір збоку прытуліўся.

— Таварышы афіцэры. — Таксама каманда. Толькі больш лагодная. Матросам кажуць «Вольна!». Селі.

— Камандзір БЧ-1, ваш даклад.

— Камандзір БЧ-1, капітан трэцяга рангу Смыкаў. У штурманскай баявой частцы асабовы склад на борце цалкам, навігацыйны комплекс запушчаны, курсаўказальнікі ў мерыдыяне, ЗІП укамплектаваны... Баявая частка да паходу гатовая.

— Камандзір БЧ-2...

— Командыр БЧ-2, капытан... — з моцным украінскім акцэнтам, — другого рангу Марцын. У ракэтноі боэвоі часты особовы склад... готові.

— Камандзір БЧ-3...

— ...

— Памочнік камандзіра!

— Памочнік камандзіра капітан трэцяга рангу Рулькевіч. Асабовы склад службы забеспячэння на борце цалкам...

— Кок добры?

— На «гражданцы» быў шэфповарам у рэстаране, таварыш камандуючы (па статуце звяртацца трэба па званні: «таварыш віцэадмірал», але ўсе ведаюць, што ён вельмі любіць так — «таварыш камандуючы». Амаль «таварыш Галоўнакамандуючы». Нават амаль «Вярхоўны Галоўнакамандуючы»!...)

— Добра... Далей...

— Харчовыя запасы загружаны...

— Свініну загрузіў?

— Свініны бербаза не дала, толькі ялавічына і кенгураціна, таварыш камандуючы.

— Ды ты што!? Як жа ж без свініны? Я ж без свініны... — павярнуўся да камандзіра бербазы, «чырвонапёрага» палкоўніка (форма чорная, пагоны з чырвонымі «прасветамі»). — Ты што, Іван Нікіфаравіч, я ж табе за гэта анус парву, я ж без свініны... І не рабіце тут твар дамінантнага бабуіна, палкоўнік!

— Ёсць, таварыш камандуючы! — (Аніякіх лішніх словаў, бо сапраўды парве.) І шэптам да памочніка: — Дай паперку! Паперку дай! Запіску напішу — возьмеш на падсобнай гаспадарцы! Чатыры гадзіны да выхаду.

«Так, туша заважыць хай сто кілаграмаў, — «маракаваў» Рулькевіч. — Не, можа нават сто пяцьдзясят. Будзем сыходзіць з горшага. Да падсобнай гаспадаркі два з нечым кіламетры. Колькі трэба матросаў, каб перанесці свіную тушу ў сто-сто пяцьдзясят кілаграмаў за два кіламетры? Задачка, туды-т яе ў цёціну пячорку! Хай па трыццаць кіль на рыла... Не, хілякі гэтыя па трыццаць доўга несці будуць. Па дваццаць... Краіне патрэбныя героі, а прысылаюць дыстрофікаў... Гэта значыць: сто пяцьдзясят кіль на дваццаць — трэба сем з паловай матросаў... Цьфу ты! Восем матросаў. А як несці? Вяроўкамі абвяжам!»

— Боцмана ў цэнтральны! Боцман, тэрмінова метраў дваццаць-трыццаць якога ліня. Нятоўстага. Як няма? Што значыць — няма? Ты боцман ці дзе? Ну, блін, выйдзем у мора, я табе адмасірую прастату! Давай пакуль два кідальных канцы. Не, тры! А-а! Чатыры давай!

Шмат анекдотаў складзена флоцкімі стваральнікамі фальклёру пра берагавую базу ўвогуле і пра падсобную гаспадарку ў прыватнасці. Падсобная гаспадарка — гэта папросту свінарнік, няштатнае ўтварэнне палітаддзельскай думкі і бербазаўскай дзеі. Каб аб'едкі з берагавога камбуза дарэмна не прападалі. Працаваць туды пасылаюць зазвычай сыноў Цэнтральнай Азіі, паслядоўнікаў вучэння Прарока Магамеда, якія кепска ведаюць расійскую мову. Хоць якая ад іх карысць. І заадно — барацьба з рэлігійным дурманам.

...Матрос у свінарніку пакруціў у руках запіску, выпісаную камандзірам бербазы, і падвёў Рулькевіча да загародкі, дзе рохкаў вялізны — што гара — парсюк.

— «Забірай, начальнік».

— Ты што! — ажно захлынуўся Рулькевіч. — Што я з ім рабіць буду?! Ты мне тушу давай!

— Бяры туша, начальнік!

— Ангідрыт-тваю міндалявокую маму... Мяса! Мяса давай! Свініну!

— Бяры свініна, начальнік. Зробіш чыкчык, мяса будзе.

— Ты! Ты сам зрабі «чык-чык»!

— Не, начальнік! Суюнбай карміць — так, чык-чык — не!..

...Гадзіна да выхаду. Прыбралі канцы электрахарчавання з берага. Прыбралі дадатковыя швартовыя. Шматтысячатонны падводны волат ля пірса на двух вяроўках — насавым і кармавым швартовых. Камандзір на мосціку, нервуецца:

— Ну дзе гэты ёлуп! Паслаў, даруй Госпадзе, Ты мне памочнічка! І матросаў звёў! Колькі з ім пайшло? Старпом! Колькі чалавек з памочнікам пайшло? А хто павінен ведаць? Тэ-экс. А што гэта там? Сігнальшчык! Бінокль! О! Ідуць! А гэта што? Ну, вагіна кабылячая! Ён жывую свінню сюды валачэ!

Прывязаўшы да ног кідальныя канцы, матросы перастаўлялі парсюку ногі. Парсюк упіраўся. Да мосціка даносіўся ягоны асіплы віск. А вагі ў ім было, відаць, за дзвесце кэгэ.

— Мост — цэнтральнаму, — ажыў на мосціку «Каштан».

— Ёсць мосцік!

— Аператыўны перадаў: камандуючы да нас выехаў.

На пірс упацелыя матросы зацягвалі парсюка. Той растапырваў ногі і адхіляўся ўсім тулавам назад. Рулькевіч піхаў яго ў круглыя кумпякі.

— Да кармы цягніце, ёхарны клітар! — зароў у «мацюгальнік» старпом.

— Камандуючы на пад'ездзе! На ракетную палубу! Перакіньце пару латкоў ад электрахарчавання! Па латках!

...«Волга» камандуючага ўз'ехала на пірс. На ракетнай палубе шчыльным шыхтом стаяла кармавая швартоўная каманда. За спінамі швартоўшчыкаў, прысеўшы, Рулькевіч чухаў парсюку за вухам: «Дзюдзя. Дзюдзя. Ну дзюдзя, толькі не высоўвайся! Хай флатаводзец у «бітон» залезе».

Абвіты канцамі, парсюк спробаў выскачыць з-за спінаў на адміральскія вочы не рабіў. Стаяў сабе, раскірэчаны.

— Смірна! Таварыш камандуючы...

— Вольна! Аддаць кармавы!

Швартоўшчыкі рассыпаліся, пабеглі ў карму.

— Аддаць насавы! Тры гудкі тыфонам! Правая — назад малы! Руль — лева дзесяць!

Паехалі.

На чорным целе, як яечка на патэльні, свяцілася цела белае. Здраднае.

От, які ён цяжкі — рэжым сакрэтнасці!

# З майго вясковага — крымінальнага — лета…



Ала НІКІФОРСКАЯ
(1957—2024)

Дадому цягнула, як магнітам, — нейкай вялікай непадуладнай мне сілай… У аўторак набрала Таццяну (Нікіпорчыкаву), без усякага спадзявання на поспех: можа, ідзе якая машына на Гродна? Дзятлаўскае ўпраўленне сацыяльнай абароны, якое яна ўзначальвае, хоць раз у месяц — ды прыязджае ў Гродна…

На маё вялікае здзіўленне — яны ў чацвер едуць на семінар… І тады машына зробіць адхіленне ад свайго звычайнага маршрута — не праз Жалудок і Беліцу, а праз Масты, і я патраплю дадому…

З Таццянай нават і дзве пяцілітровыя пасудзіны вады ўзяла, каб мне было менш насіць здалёк… Трэба ўзяць і бульбу, і памідоры, і агуркі — там жа мяне ніхто не чакае… Там жа нічога не пасаджана…

17 жніўня, чацвер, сонца, пік дня…

Двое дзвярэй я адчыніла — у веранду і сені… Цяпер адмыкаю, як у нас кажуць, на хату… Ключ вялікі, каб адамкнуць ці замкнуць, трэба прыкласці сілу — і дзверы, і замок 50-х гадоў… Замыкае на адзін паварот, але надзейна.

Заходжу… і — атарапела: верхняя дзверка буфета напалову адчынена… Я разумею, што штосьці ўжо тут адбылося…

Праходжу ў спальню, аглядваюся — быццам бы ўсё на месцы… Падыходжу да дзвярэй, якія вядуць у другі пакой; цяпер я яго называю бацькаў пакой: ён там спаў апошнія гады тры…

Дзверы зачынены, але не так — не шчыльна і не на кручок… Адчыняю — гэтая гапачка, шуруп, вырваны з мясам, валяецца на падлозе…

Першая думка: хіба які бомж начаваў?..

Тэлевізар накрыты не так, як я пакідала…

Робіцца крыху страшна: мне ж і начаваць прыйдзецца адной…

У кухні мяне чакае яшчэ большае недаўменне…

Я чакала, што адчынена акно, што выбіта шкло… Акно зачынена, шкло быццам бы не выбіта: сама сабе не веру, бяру лыжачку — правяраю, ці ёсць вонкавае шкло… Ёсць. Разбіта толькі самая верхняя адна шыбка — а была цэлая…

Заглядваю за акно — уся высокая трава пакладзена, вытаптана, ясна відна сцежачка… Там нават не трава, а высокія белыя кветкі, крыху падобныя на рамонкі, — назвы іх я не ведаю…

Як і не ведаю, што мне далей рабіць… Ужо і не крыху страшна, а па-сапраўднаму — проста не па сабе…

Надумала набраць нумар і пагаварыць з міліцыяй… Не магу знайсці гэты дзяжурны нумар: ведаю, што запісвала, здаецца, ведаю, у чым, — гартаю кнігу і не знаходжу… Ад хвалявання.

Тэлефаную следчаму: Віоліка — маладая асоба з такім вось незвычайным імем, з якой я мела справу (зноў жа — «крымінальную»!) першага жніўня… Коратка тлумачу абставіны, кажу, што я ўпершыню ў такой сітуацыю і не ведаю, што мне рабіць…

Адказ: «Я прыехала б, але я не працую…».

Дзяжурнага нумара міліцыі яна не ведае, раіць набраць 102… Але я ў мінулы раз па гэтым 102 з наборам кода не магла датэлефанавацца… Папярэджвае, што часта выклікаюць міліцыю, але яны не знаходзяць ніякіх слядоў… І ўжо зусім недарэчна дадае: «У Вас жа Коля рабіў рамонт…» Што абсалютна збівае мяне з тропу…

Прычым тут Коля і рамонт?! Ды і рамонта не было: Коля павесіў два кухонныя шафчыкі ў кухні… Я ўсё пакінула ў поўным парадку. А тут — чужая прысутнасць, гвалтоўная…

Гэтай апошняй заўвагай яна мяне цалкам расчаравала… Як можна з такой недасканалай логікай нешта раскрыць ці знайсці?

І я вырашыла: пайду да Аліка — ён жыве непадалёку, у яго ёсць тэлефон — і я адтуль пазваню…

Толькі адчыніла дзверы ў хату — як на мяне абрушылася лавіна вяселля і рогату: Алік і Юра нешта глядзелі ў планшэце, добра падвыпіўшыя, не ведаю, наколькі Юра — ён сядзеў на ложку, а Алік устаў з-за стала — і гэтая перабраная доза была заўважнай…

— Спыніцеся, — кажу, — дайце цішыні: мне трэба патэлефанаваць у міліцыю — да мяне ўлезлі ў дом…

— І што?! Ужэ адразу ў міліцыю???

— Да мяне ўлезлі ў дом, — паўтараю яшчэ раз з вялікім націскам.

— І што?! Ужэ адразу ў міліцыю??? — з вялікім здзіўленнем ці неразуменнем майго неправамернага дзеяння паўтарае Юра.

І тут раптоўная здагадка:

— Дык гэта ты зрабіў!!!

— Ну, гэта я зрабіў, Алёна. (Ён мяне заўсёды называў менавіта гэтым варыянтам.)

Тут мяне прарвала… Усе маты, якія я ведала, і ўсе знішчальна-абразлівыя словы я абрушыла на яго… Ён маўчаў.

— Ты чаму не пайшоў да Надзі з Толікам? Ці да Толіка Куршука?

— Там яго сцёрлі б у парашок… Ён пайшоў туды, дзе для яго найменш рызыкоўна…

— Што ты там узяў?

— Алей, цукар, віно…

— Так ты што — злодзей? Як ты мо?! — Алік з кулакамі кінуўся да яго.

Мне прыйшлося астудзіць яго пылкасць: не дай Бог пазабіваюцца — будзе яшчэ горш, чым тое, што адбылося…

Юра прыйшоў з турмы — умоўна, на вольнае пасяленне, па-мойму, гэта так называецца… Наведваў ён гэтую ўстанову ці не пяты раз ужо? Жыў у апошнія гады не тут, а недзе ў Брэсцкай вобласці, дзе жыла яго маці, але ён тут быў прапісаны… І для невялікай колькасці людзей у нашай вёсачцы ўзнікла пагроза — было трывожна, а недзе і боязна… Як правільна вызначыў новы чалавек, які набыў сабе дачу каля рэчкі: «Усе — у чаканні: што ён утворыць?»

Я на яго і не падумала… Я — неяк абстрагавана ад усіх абставін — успрымала яго проста як чалавека… Для мяне гэта быў вялікі ўдар, і чым далей, потым, аглядала сляды яго прысутнасці ў доме — гэты ўдар станавіўся ўсё мацнейшым…

А для яго гэта было амаль праваМоцным дзеяннем — ну, што тут такога! Ён, як ні ў чым ні бывала, выйшаў за мною, каб дастаць са студні вады…

Я хадзіла па ваду да Аліка, але вослка ў вядры было нейкай няправільнай формы — без выемкі, і я сама не магла зачарпнуць вады… Звычайна ваду даставаў Алік, але амаль два летнія тыдні, што я была дома, ваду даставаў Юра… Падчас узнікалі нейкія дыялогі: то чаму я не езджу на «Рэно», то навошта я прадала паветку… «Я заўважыў, што ты жадная да грошай… Ты і сарай прадала…»

У дзень майго мінулага ад'езду Юра папрасіў прабачэння: «Не крыўдзіся, Алёна, гэта я проста перапіў». Але яшчэ і ўдакладніў: «А ты паедзеш сёння?» Ну, што ж тут таіць! «Сёння», — адказала.

Гэта ён чакаў майго ад'езду: ён усё спланаваў… Хоць у апраўданне свайго ўчынку прывёў вельмі важкі аргумент: «Я ішоў ад Соні, мне было хрэнова…» — То чаму ты, — кажу, — не пайшоў у рэчку — апаласнуўся б, можа, дайшоў бы да розуму…»

Але аналізавала ўсё гэта я ўжо потым… А цяпер адмовілася ад яго паслугі і пайшла з пустой пасудзінай…

Пайшла да Надзі з Толікам… Там расказала пра гэтую падзею — абмеркавалі ўсё, і набрала вады…

Мікалаеўна — так звяртаюся да Надзі: яна старэйшая за мяне — за тое, каб выклікаць міліцыю… Але рашэнне мною ўжо прынятае, я яго не памяняю… У памяць тых людзей, што тут жылі: я з яго сям'ёй не мела ніколі ніякіх канфліктаў; яго бацька нешта дапамагаў майму бацьку — ужо не помню, што, але гэта было не так даўно — Манюня ўжо была хворай і знаходзілася ў нашым доме…

Адна вёска… Праўда, аднавяскоўцы ўжо абкрадалі мяне двойчы: праз адно і тое ж акно…

Да ўсяго — у гэтым маім намеры быў і нейкі духоўны момант…

Не хачу браць грэх на душу…

«Ды які тут грэх?! — пярэчыць Мікалаеўна. — Ён улез у хату, а ёй грэх…»

Мая пазіцыя падзяліла людзей…

Патэлефанавала сваёй аднакласніцы, кажу пра Надзіна настойлівае меркаванне: выклікаць міліцыю…

Чалавек шукаў есці… Ён будзе помсціць…

На гэта Толік потым скажа: «Ён выпіць шукаў, а не есці». І гэта сапраўды так: і віно, і бутэлька гарэлкі стаялі ў шафцы ў кухні, другая бутэлька была схавана… А можа, іх было і тры — я не вяла ўлік: не запісвала, не фатаграфавала…

На стале — сляды ад бутэлькі, на хаце — на дыване і на стале — рассыпаны чай… У буфеце стаялі тры стограмоўкі з тонкага шкла: для бытавога прызначэння — то падключыць трэба газ, то адключыць… Засталося толькі дзве. Адну забраў — не было з чаго піць дома, вырашыла я… А потым тры дні падрад на дыване, нават ужо і пасля пыласмока, знаходзіла драбнюткія тоненькія шкельцы — ён яе разбіў і прыбіраў гэтае шкло…

Ён нават і акно зашкліў, што называецца — «замятаў сляды…». Дастаў два ніжнія — самыя вялікія — прамавугольныя, каб патрапіць у дом… У чужы дом… І гэта для яго — норма… «І што? Ужо і ў міліцыю?» Сапраўды, што тут дзівоснага ці парушальнага! — звычайныя рэчы! Чалавеку ўжо, напэўна, за сорак, — праз двайное акно залезці ў чужы дом…

Вечарам я адчыніла дзверкі буфета, дзе ў два рады стаялі мае кнігі… Зніклі кнігі — альбомы — па мастацтву «Павел Третьяков», «Владимир Стасов», альбом пра скульптара Ф. Канёнкава — я яго і назвы дакладнай не помню… Вядома, знікла нешта і яшчэ — вопісу кніг таксама не было… Але найболей шкада кнігі — вялікага энцыклапедычнага фармату — пра мастацтва Сярэднявечча…

Ён вырашыў, што гэта загоніць за бутэльку… А можа, і загнаў ужо…

У пятніцу — як заўсёды, аўталаўка…

Падышла да Сашы Юльчынага (хто называў Юльчын, хто — Юлісеў), каб падлючыў газ… Расказала пра мае абставіны…

— То, можа, гэта не Юра?

— Юра. Ён прызнаўся.

Пайшла на прыпынак — чакаць аўталаўку… Падышоў Алік…

— Чаго ты злосная?

— А які б ты быў?

Ды я і не была злоснай. Для мяне гэта быў моцны ўдар… Я з яго не толькі назаўтра, але і на працягу тых пяці дзён, што я была дома, не магла выйсці…

Расказала пра кнігі… Алік — на правах сябра — раванулся: «Я пайду — забяру ў яго…». Хата Юры побач з прыпынкам… Алік прынёс толькі тры кнігі, але не па мастацтву… Пайшоў яшчэ раз — вярнуў з вырванымі старонкамі Чэхава, некалі мне падарыла гэтую кнігу мая вучаніца Таццяна Пракаповіч…

У другой палове той жа пятніцы я пачысціла і вымыла ў хаце ўсё нанова… Шлях міліцыі да пакарання Юры быў адрэзаны…

Коля, мой траюрадны брат і хрэснік, у панядзелак зашкліў дзве пабітыя шыбкі; наколькі гэта было магчыма, мы прывялі гэтае пакалечанае акно ў парадак…

Падчас работы парэзаў палец… Смяецца: «Ці ёсць бінт і ёд?» Я ўжо злавала б: чужое акно, чужы дурны ўчынак, а ён смяецца… Праўда, можа і не зусім чужое (акно)… Недзе там — а Коля жыве ў суседняй вёсцы — сустрэў Юру і моцна яго лаяў… Пра гэта расказаў Юра Аліку, і пра тое, што яму было сорамна… Хоць адзін чалавек заступіўся за мяне.

Яшчэ падчас работы — зусім невялікая падзея! — зазваніў тэлефон…

«Дочачка міленькая, я цяпер заняты, я потым перазваню…».

Мяне расчуліла ледзь не да слёз… Я толькі ўдакладніла, якая з дзвюх дочачак тэлефанавала… Не трэба ні вышэйшай адукацыі, ні рэгалій, каб быць проста — чалавекам…

У панядзелак знік кудысьці Юра. Да Аліка ён з раніцы не прыходзіў… Удзень я хадзіла да Надзі: аказваецца, у нядзелю, у гадзін адзінаццаць вечара, каля яго хаты была міліцэйская машына… Мы вырашылі, што яго забралі: можа, ён яшчэ штосьці ўтварыў…

Бо раніцай у нядзелю, у восем гадзін, па вёсцы ездзіла міліцыя і шукала Юру… Пад'ехалі і да мае хаты. Я, на хаду завязваючы паясок халата, выйшла насустрач… Першая думка была: ужо даведаліся… Але я памылілася: ніхто мне не задаў ніякага пытання — нічога яны не даведаліся… Спыталі, дзе ён можа быць, куды ён ходзіць і ці ходзіць да мяне… Само сабой — ён да мяне не ходзіць, а пра тое, што ён залез у мой дом — я ўтаіла…

Праўда, вечарам той жа нядзелі, — ужо пачынала змяркацца, я прысела за стол і раптам бачу ў акне: да мяне пад'язджае на веласіпедзе Юра… Я куляй адскочыла ад стала — якраз размаўляла па тэлефоне з сяброўкай… Я спалохалася… А яна: «Можа, ён да цябе зойдзе…» — «Хай Бог бароніць», — выпаліла я.

Мне стала неяк прыкра. Я ўжо на яго глядзела трохі інакш, не так бяспечна, як да гэтага. Што ён хацеў, я не ведаю. Можа, ён яшчэ не ўсё ўзяў у мяне? Мікалаеўна — потым: «Можа, ён хацеў папрасіць прабачэння?». Непадобна на яго…

У аўторак я ад'язджала… Было балюча і скрушна. Шкада было пакідаць дом. Шкада было, што я не магу яго абараніць. Шкада было, што я нічым не магу яго парадаваць: аднавіць яго, даць яму нейкае новае жыццё, напоўніць яго жывымі людскімі галасамі…

Ужо перад адыходам з хаты патэлефанавала старшыні сельсавета: ці не валодае ён інфармацыяй, дзе падзеўся Юра… «Не валодаю: у нас няма ўчастковага, заўтра буду ведаць», — быў адказ.

Я расказала пра гэты выпадак — абурылася, чаму не выклікала міліцыю…

Ужо з Гродна, у пятніцу, я патэлефанавала яму яшчэ раз… Юру павінны былі забраць на зону, але ён не прайшоў медкамісію: ён будзе або ў шпіталі, або дома…

Усё-такі надзейней — калі не дома… Патэлефанавала яшчэ і Мікалаеўне: даведалася, што прыязджала міліцыя, узялі ў яе мой тэлефон, яна сказала ім, што я заяву пісаць не буду… І самае галоўнае для ўсіх: яны сказалі, што болей вы яго тут не ўбачыце… І яшчэ адзін момант: Юра вельмі прасіўся, каб яго адпусцілі дадому — хоць на паўгадзіны… Я зразумела — каб знішчыць тыя кнігі, што ён узяў у мяне…

Міліцыя паехала да Аліка — і, напэўна, Алік вадзіў іх да мае хаты…

Гэтай інфармацыі для мяне хапіла — Аліку не тэлефанавала, у нядзелю ён патэлефанаваў мне сам… Сапраўды, ён вадзіў іх да таго шматпакутнага акна, яны бачылі тую вытаптаную траву і сцежку, але мне ніхто — я маю на ўвазе міліцыю — не званіў, і на гэтым усё скончылася… Розгалас пра гэтую падзею аціх, вёска жыве сваім звычайным жыццём…

